● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

16 чэрвеня 1998 г. аўторак, № 123 (23474)

# ЗВЯЗДА

## ВІЗІТ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ Ў ЕГІПЕТ НАКІРАВАНЫ НА АДНАЎЛЕННЕ РАНЕЙШАГА ЎЗРОЎНЮ АДНОСІНАЎ

**Афіцыйны візіт у Арабскую Рэспубліку Егіпет кіраўніка беларускай дзяржавы накіраваны, перш за ўсё, на аднаўленне ранейшага ўзроўню адносінаў паміж дзвюма краінамі, якія ў гады існавання СССР вызначаліся ўстойлівасцю і стабільнасцю. Аб гэтым заявіў Аляксандр Лукашэнка 15 чэрвеня ля трапа самалёта перад вылетам у Каір.**

Прэзідэнт адзначыў, што ляціць у Егіпет з рабочым настроем, бо за два дні трэба будзе зрабіць вельмі шмат. Беларускаму боку, паводле яго слоў, хацелася б павялічыць тавараабарот, наладзіць дзелавыя адносіны ў галіне эканомікі, а таксама ўмацаваць кантакты ў сферах адукацыі і культуры. Але, безумоўна, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, у першую чаргу неабходна наладзіць больш цесны палітычны дыялог з АРЭ.

Тон гэтаму дыялогу быў зададзены адразу ж пасля прыбыцця ў Каір. Гасцей сустракаў прэзідэнт Егіпта Хосні Мубарак. Але афіцыйная цырымонія адбылася каля рэзідэнцыі кіраўніка АРЭ. Пасля афіцыйнай цырымоніі сустрэчы члены дэлегацыі адправіліся ў палац «Кубба», які і стаў на час візіту іх месцам знаходжання.

У гэты ж дзень прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка правёў перагаворы з кіраўніком Егіпта Хосні Мубаракам і прэм'ер-міністрам Камалем Ахметам аль-Ганзуры. Члены беларускай дэлегацыі ўсклалі кветкі да магіл Невядомага салдата і былога прэзідэнта Егіпта Анвара Садата, які падпісаў Кэмп-Дэвідскія пагадненні і заключыў мірны дагавор з Ізраілем. Яны таксама наведалі Гізскія піраміды.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**



Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.

## РАБОЧЫ ТЫДЗЕНЬ ПРЭЗІДЭНТА

Гэты рабочы тыдзень прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў асноўным прысвечаны паглыбленню міжнародных кантактаў. У сераду, пасля завяршэння візіту у Арабскую Рэспубліку Егіпет, прэзідэнт прыме ўдзел у Пецярбургскім эканамічным форуме. На канец тыдня назначаны сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі са службовымі асобамі дзяржавы, вырашэнне кадравых пытанняў.

**БЕЛТА.**

## Сонца, дождж з маланкамі і цеплыня — у «адным бакале»?

Як стала вядома рэдакцыі, па шэрагу метэаралагічных станцый быў перавышаны дэкадны максімум па тэмпературы. 8-га, а потым і 9 чэрвеня сонца «распаліла» нашу краіну не на жарт. У першы дзень гэтай спякоты добра дасталося Лідзе (31,5 градуса), Ваўкавыску (31,7), пасёлку Высокае (32,7) і Брэсту (33,0). 9 чэрвеня сонейка бязлітасна прыпякло Барысаў (32,7), М. Горку (31,9), Бабруйск (31,5), Івацэвічы (31,9), Пінск (32,9) і Жыткавічы (32,4).

У асобных раёнах Беларусі ў апошнія трое сутак шмат выпала ападкаў. Так, з раніцы 12 чэрвеня па раніцу 15 чэрвеня на станцыі Верхнядзвінск выпала 154 мм ападкаў, што перавысіла месячную норму больш чым удвая. Нядрэнна прамачыў дождж глебу на Шаркаўшчыне (90 мм) і ў Лельчыцах (93 мм). Трэба адзначыць, што дажджы былі моцныя не па ўсёй краіне, а толькі ў Віцебскай і Мінскай абласцях.

Якіх выбрыкаў ад прыроды нам трэба чакаць надалей? Паводле слоў дырэктара Гідраметцэнтра Беларусі Тамары Цярэшчанка, у бліжэйшы тыдзень у краіне будзе захоўвацца няўстойлівае надвор'е, месцамі з моцнымі дажджамі і навальніцамі. Неўзабаве паўднёвы вецер адыдзе ўбок і над краінай задзьме мяккі ветрык з Заходняй Еўропы. Напрыканцы тыдня спякота павінна выдыхнуцца амаль цалкам. Сіноптыкі прагназіруюць, што тэмпература ўдзень — у межах 18—23 градусаў, уначы — 10—15 градусаў вышэй нуля.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Мы выбіраем, нас выбіраюць?

Паводле афіцыйных даных, за студзень—сакавік гэтага года на работу ў Беларусі ўладкавалася 89 іншаземцаў, тады як на пошукі заробкаў за межамі краіны адправілася 303 грамадзяніны нашай краіны. Для параўнання: за аналагічны перыяд летась гэтыя лічбы былі адпаведна 25 і 255.

Сярод краін, якія пастаўляюць працоўную сілу ў Беларусь, першынство па-ранейшаму ўтрымліваюць Расійская Федэрацыя, Арменія, Украіна і Казахстан — на іх прыпадае прыкладна дзве трэці ад усіх замежных грамадзян, якія прыбылі ў нашу краіну. У сваю чаргу беларусы, як правіла, працуюць у той жа Расіі, Чэхіі і ЗША. Разам з тым за першыя тры месяцы года толькі 17 нашых суайчыннікаў падаліся на заробкі ў Польшчу. Аднак, як лічаць у Дзяржаўным камітэце па міграцыі, тлумачэнне таму даволі простае: апошнім часам самі палякі аддаюць перавагу менш патрабавальным да ўмоў працы і аплаты украінцам.

**Сяргей ГРЫБ.**

## У Пінску змагаюцца з раскрадальнікамі

Газета ўжо паведамляла пра дзве цікавыя справы, якія «раскапалі» аператыўнікі ў Пінскім раёне на мінулым тыдні. Як стала вядома, да іх дадалося яшчэ столькі ж: у злоўжыванні службовым становішчам падазраюцца галоўны бухгалтар адной з дзяржаўных установаў Пінска і старшыня калгаса раёна.

Дарэчы, сума, якую «прыхватызаваў» старшыня калгаса, цягне на рэкорд. Для таго, каб паправіць сваё матэрыяльнае становішча, яму спатрэбілася аж 480 мільёнаў рублёў. Сёння, і гэта так, не кожны кіраўнік сельскай гаспадаркі зможа пахваліцца наяўнасцю ў касе такіх вялікіх грошай.

Што датычыцца галоўнага бухгалтара дзяржаўнай арганізацыі, то яна «ўсяго толькі» незаконна ўзяла з небюджэтнага фонду сваёй установы каля 28 мільёнаў. Высветлілася, што грошы пайшлі на будаўніцтва яе аднапакаёвай кватэры. Цікава, хто ў ёй зараз будзе жыць? Наўрад ці бухгалтар.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## Пазрывала дахі, знішчыла пасевы

**Найбольш моцна ліўневыя дажджы і град закранулі пазаўчора ў Мінскай вобласці Барысаўскі, Пухавіцкі, Чэрвеньскі, Слуцкі і Капыльскі раёны. Ва ўсіх гэтых раёнах створаны спецыяльныя камісіі, якія на месцах удакладняюць сумы ўрону.**

Як адзначылі ў штабе грамадзянскай абароны па Мінскай вобласці, найперш урон быў нанесены сельскагаспадарчым угоддзям і дахам пабудоў. На шчасце, ад рэштак шыферу ніхто не пацярпеў. Падчас разгулу ветру і дажджу ў многіх раёнах адключалася электрычнасць. Напрыклад, у Пухавіцкім раёне засталося без святла 30 населеных пунктаў. Аднак зараз лініі электраперадач паўсюдна спраўна працуюць.

На момант падрыхтоўкі матэрыялу не ўдалося ўдакладніць інфармацыю аб тым, што ў Барысаве падчас купання ў навальніцу загінуў адзін і быў кантужаны другі чалавек: у іх трапіла маланка. Адпаведныя афіцыйныя ўстановы пакуль не валодаюць данымі на гэты конт.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### Вакол спорту

## «Дынама-93» — па-за гульнёй!

**Дэмарш мінскай каманды «Дынама-93» тыдзень таму, калі футбалісты ўсяго толькі затрымалі гульню на 30 хвілін, аказаўся толькі дэмаршам... У мінулую пятніцу «дзевяноста трэція» наогул не выйшлі на гульню з віцебскім «Лакаматывам-96».**

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» выконваючы абавязкі прэзідэнта «Дынама» Леанід Гарай, забастоўка стала лагічным працягам тых абяцанак, якія шчодра раздавалі футбалістам.

«У сітуацыі, якая склалася, нас больш за ўсё непакоіць няпэўнасць, мы хочам толькі аднаго — яснасці. Калі стварэнне нармальных умоў для выканання намі прафесійных абавязкаў немагчыма, мы ў адпаведнасці з рэгламентуемымі дакументамі ФІФА павінны атрымаць магчымасць беспярэшкодна працягваць свае кар'еры там, дзе палічым патрэбным. Яшчэ раз нагадаем: у нас не застаецца іншага выйсця ў барацьбе за свае правы...»

Гэта з ліста футбалістаў. Маркуйце самі, паважаныя балельшчыкі!

**Кар. «Звязды».**

## «Мокрая» нядзеля прынесла бяду

**14 чэрвеня, пачынаючы недзе з 13 гадзін, па ўсёй тэрыторыі краіны прайшлі ліўневыя дажджы з навальніцамі, градам і шквалістым ветрам. На жаль, няспрыяльныя ўмовы надвор'я не абышліся без трагічных наступстваў.**

Як паведамілі рэдакцыі ў Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях, у выніку разгулу стыхіі па **Мінскай вобласці** пацярпеў Барысаў, дзе выпала 51 мм ападкаў, было павалена шмат дрэў. У Любані выпала 75 мм ападкаў, моцны дождж прайшоў у Жодзіне і Старых Дарогах. У Смалявічах на возеры Смалявіцкім ад удару маланкі загінуў А. Лаўрэцкі, 1957 года нараджэння.

У **Віцебскай вобласці** ў Докшыцах выпала 50 мм ападкаў, у Верхнядзвінску прайшоў град дыяметрам 30 мм і выпала 77 мм ападкаў, маюцца пашкоджанні ў горадзе.

У **Гомельскай вобласці** найбольш моцная навальніца была ў Ельскім і Жыткавіцкім раёнах, у гарпасёлку Лельчыцы і ў Мазыры ёсць пашкоджанні, маштабы якіх удакладняюцца.

У **Гродзенскай вобласці** з-за моцнай навальніцы былі адключаны Ашмянская ПЭС, якая абслугоўвае тры раёны, і 39 трансфарматарных падстанцый. У вёсцы Асабнякі Слонімскага раёна ад удару маланкі загінула П. Мароз, 1923 года нараджэння, а ў выніку пажару загінуў В. Аўгустовіч, 1932 года нараджэння.

За нядзелю адбылося 46 пажараў, гарэла 8 тарфянікаў, якія ўжо ўсе патушаны, акрамя аднаго ў **Брэсцкай вобласці**. Нягледзячы на выпаўшыя ападкі, як адзначаюць спецыялісты Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, пад'ёму вады ў рэках не назіраецца.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Маланка трапіла ў людзей

**У суботу і ў нядзелю на Гомельшчыне пранесліся штармавыя і ўраганныя вятры, а ў шэрагу раёнаў прайшлі моцныя дажджы з градам.**

Асабліва пацярпеў ад стыхіі Ельскі раён. Тут сарваны ветрам стрэхі больш чым з дзесяці прыватных дамоў, а ў некаторых саўгасах і калгасах — шыфер з гаспадарчых памяшканняў. У Жыткавіцкім раёне выпала палумесячная норма ападкаў, у шэрагу гаспадарак ад граду пацярпелі пасевы. Але самая вялікая трагедыя адбылася ў нядзелю каля васьмі гадзін вечара ў вёсцы Праходы Петрыкаўскага раёна. На аўтобусным прыпынку ў час навальніцы разрадам маланкі былі смяротна траўміраваны два мясцовыя жыхары — 57-гадовы рабочы Навасёлкаўскай птушкафабрыкі і пенсіянер.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

*(Працяг тэмы на 5-й стар.)*



**Падпіска на «ЗВЯЗДУ» на другое паўгоддзе 1998 года падоўжана да 20 чэрвеня ўключна.**

**Нагадваем індэкс «Звязды»: 63850 — для індывідуальных падпісчыкаў, 63239 — для ведамасных падпісчыкаў.**

*Падпісная цана «Звязды» на месяц — 29.000 руб. для індывідуальных падпісчыкаў, 50.000 руб. для ведамасных падпісчыкаў;*
*на 3 месяцы — 87 тысяч і 150 тысяч адпаведна;*
*на 6 месяцаў — 174 тысячы і 300 тысяч адпаведна.*

# Форум па СНД разгледзеў абхазскую праблему

**15 чэрвеня ў памяшканні Выканаўчага сакратарыята СНД у Мінску прайшло першае пасяджэнне Спецыяльнага міждзяржаўнага форуму для абмеркавання пытанняў аб удасканаленні дзейнасці СНД і яго рэфарміравання. Ён скліканы ў адпаведнасці з рашэннем Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД ад 29 красавіка і будзе прадоўжаны на некалькіх наступных асобных пасяджэннях афіцыйных дэлегацый і рабочых груп ажно да верасня гэтага года. Ягоныя вынікі будуць прадстаўлены Савету кіраўнікоў дзяржаў СНД для прыняцця рашэнняў.**

Каб канчаткова зняць крыватолкі, якія ўзніклі апошнім часам адносна размяшчэння штаб-кватэры СНД, ужо ва ўступным слове на форуме выканаўчы сакратар СНД Б. Беразоўскі адназначна падкрэсліў, што штаб-кватэра Садружнасці і надалей будзе размяшчацца ў Мінску і што гэту пазіцыю падтрымліваюць кіраўнікі дзяржаў СНД, з якімі ён вёў перагаворы. Беразоўскі сказаў, што розныя выказванні і спекуляцыі на гэты конт «правакуюць сітуацыю».

На ўчарашнім пасяджэнні форуму па праблемах Садружнасці было разгледжана шэсць пытанняў, прысвечаных рэфарміраванню структур СНД.

Барыс Беразоўскі назваў галоўнай задачай у рамках СНД эканамічную кааперацыю краін. Ён сустракаўся з усімі кіраўнікамі дзяржаў СНД, акрамя прэзідэнта Расіі, з якім ён будзе мець гаворку 18 чэрвеня, і ўсе яны прадэкларавалі сваю волю да ўмацавання гэтай кааперацыі. На думку выканаўчага сакратара СНД, ранейшыя метады эканамічнага ўзаемадзеяння сябе не апраўдваюць, бо ўзніклі новыя эканамічныя структуры, у тым ліку прыватны бізнес, якія дзейнічаюць па новых законах. На сёння ўсе без выключэння кіраўнікі дзяржаў СНД падтрымліваюць стварэнне агульнай зоны свабоднага гандлю.

Аднак жыццё ўнесла свае карэктывы ў парадак дня форуму. Прадстаўнік Грузіі Тэймураз Масіашвілі распаўсюдзіў зварот з просьбай разгледзець пытанне аб мірным урэгуляванні ў Абхазіі, дзе ў канцы мая адбыліся жорсткія ўзброеныя сутычкі, у выніку якіх з'явілася 40 тысяч новых бежанцаў, дзесяткі спаленых вёсак. На думку грузінскага боку, надзеі на новае камандаванне міратворчымі сіламі СНД ў Абхазіі не апраўдаліся, бо менавіта гэтыя сілы прапусцілі ў Гальскі раён цяжкую ваенную тэхніку абхазаў. Гэтае пытанне было дадаткова ўключана ў парадак дня і стала ці не самым актуальным і вострым у абмеркаванні.

— На жаль, пасля прыняцця рашэння Саветам кіраўнікоў СНД па Абхазіі ў красавіку гэтага года, сітуацыя развівалася з дакладнасцю да наадварот. Не толькі не была расшырана зона дзейнасці міратворчых сіл, а нават скарочана. Выявілася абсалютная бездапаможнасць якіх-небудзь структур Садружнасці, што ставіць яго і Савет кіраўнікоў дзяржаў у двухсэнсоўнае становішча,— падкрэсліў Б. Беразоўскі.

На яго думку, гэта будзе «паваротны пункт», які засведчыць, можа ці не СНД у прынцыпе вырашаць падобныя праблемы.

Першы намеснік міністра замежных спраў Расіі Барыс Пастухоў, які старшынстваваў на ўчарашнім пасяджэнні форуму, заначыў на падагульняючай прэс-канферэнцыі, што па абхазскаму пытанню было прынята спецыяльнае рашэнне:

— Барыс Беразоўскі прапанаваў дзеянні, якія былі падтрыманы на форуме, каб у самыя бліжэйшыя дні сабрацца недалёка ад зоны канфлікту, запрасіць паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта Грузіі, а таксама лідэра Абхазіі У. Ардзынбу, прадстаўніка Расіі як пасрэдніка і абмеркаваць сітуацыю вакол гэтага канфлікту.

Барыс Пастухоў вельмі крытычна адазваўся аб дзеяннях абхазскага кіраўніцтва, якое ўвяло надзвычайны рэжым у зоне канфлікту, выказала патрабаванні да бежанцаў атрымліваць спецыяльныя пропускі, што па сутнасці перакрывае ім дарогу дадому. Пастухоў заявіў, што пазіцыя Расіі заключаецца ў тым, каб бежанцаў вярнуць неадкладна і без усякіх умоў: «Умовы абхазаў нельга прымаць, бо торг з нагоды бежанцаў недастойны», — падкрэсліў ён.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Камароўка не займаецца «шокавай тэрапіяй»

**Сталічны Камароўскі рынак заўсёды быў люстэркам, у якім адбіваліся ўсе эканамічныя праблемы, якія перажывае наша грамадства: варта толькі было падняцца курсу долара, як услед за ім падніміліся на Камароўцы і цэны. Не стаялі на месцы яны і ў апошні час, прычым, па некаторых відах тавараў яны пераўзышлі нават магазінныя, у выніку чаго цікавасць да рынку ў насельніцтва значна аслабла. Аднак у самы бліжэйшы час, на фоне рэзка ўзрослых цэн на харчаванне ў магазінах, можна чакаць, што пакупнік зноў пацягнецца на рынак.**

Перш за ўсё трэба адзначыць, што на Камароўцы значна таннейшыя, чым у магазінах, розныя крупы: так, 1 кг рысу каштуе 28 тысяч рублёў, грэцкіх круп — 27 тысяч рублёў, мукі — 14—17 тысяч і г. д. Пакуль прайграе ў цане толькі цукар (28 тыс. руб. за кг), затое на рынку ён сустракаецца амаль на кожным кроку і за ім не выстройваюцца чэргі.

Моцную канкурэнцыю гандлёвым прылаўкам магазінаў складаюць таксама рыначныя мясныя рады. Скажам, курыныя кумпячкі рэалізуюцца тут па 95 тысяч, ялавічная выразка — па 130—160 тысяч рублёў, свіная смажанка — 90—110 тыс. рублёў, шыйная частка — 160—180 тыс. руб., лапатка — 150—165 тысяч.

Істотная розніца — у 30—40 тыс. руб. — назіраецца ў кошце магазіннага і рыначнага алею. Вось толькі не паддаецца тлумачэнню той факт, што айчынны разліўны алей, рэалізуемы прыватнікамі, каштуе на Камароўцы нават больш (65 тыс. за літр) за яго замежны аналаг у бутэльках (58—67 тыс. руб.)

Больш танная на рынку таксама і рыба: кілаграм мінтая і скумбрыі каштуе 82 тысячы, сайды, аргенціны — 78 тысяч, філе селядца — 70—74 тысячы рублёў.

Ну і, вядома ж, ні ў якое параўнанне не ідуць з агульнагарадскімі цэны на Камароўцы на агародніну. Калі ў магазінах і гандлёвых латках сталіцы таматы каштуюць 75—65 тыс. рублёў, на рынку цэны на іх знізіліся ўжо да 50 тысяч; кошт агуркоў у горадзе — 30—50 тысяч, на рынку — 19—30 тысяч рублёў. Дарэчы, з'явіліся на Камароўцы ўжо і клубніцы па цане 45—60 тыс. руб. за кілаграм, і цалкам можна спадзявацца на тое, што да канца сезона гэтыя лічбы яшчэ істотна зменшацца.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## РОЗГАЛАС

# СВАЕ ПРАВЫ ТРЭБА ВЕДАЦЬ

**У рабочай рэзідэнцыі кіраўніка дзяржавы пад старшынствам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта М. У. Мясніковіча адбылася чарговая нарада, прысвечаная 50-годдзю прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. З кароткай інфармацыяй аб рабоце, што праводзіцца ў сувязі з гэтай датай, выступілі галоўны рэдактар газеты «Рэспубліка» С. В. Дубовік, галоўны рэдактар «Народнай газеты» М. В. Шыманскі, намеснік міністра замежных спраў Н. М. Мазай, кіраўнік Нацыянальнага прэс-цэнтра І. В. Сакалоўскі, намеснік міністра юстыцыі В. Р. Галаванаў.**

У ходзе праведзенага затым абмену думкамі падкрэслівалася, што задача ажыццяўлення і абароны правоў чалавека не вычэрпваецца юбілейнымі мерапрыемствамі, а мае даўгачасны характар і павінна пастаянна знаходзіцца ў полі зроку дзяржаўных органаў, прэсы, грамадскіх арганізацый. У значнай меры яна мае адукацыйны характар.

У сувязі з 50-годдзем Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека гэтай тэме пачалі больш увагі ўдзяляць усе дзяржаўныя органы. Створаны нацыянальны камітэт па святкаванню юбілейнай гадавіны пад старшынствам віцэ-прэм'ера У. П. Заматаліна. Сур'ёзны бой, асабліва ў сродках масавай інфармацыі, трэба аб'явіць цяганіне і бюракратызму ў розных установах, паколькі такія з'явы перашкаджаюць рэалізацыі правоў людзей.

Вялікім клопатам дзяржаўных органаў, грамадскіх арганізацый, сродкаў масавай інфармацыі павінен стаць удзел прадстаўнікоў Рэспублікі Беларусь у міжнародных арганізацыях, што займаюцца правамі чалавека, растлумачэнне рэальнага становішча з правамі чалавека ў рэспубліцы, адпор выдумкам наконт гэтага, якія часта звязаны з няведаннем беларускіх рэалій, а таксама з палітыкай двайных стандартаў. Між тым, адзначалася на нарадзе, пачынаючы з 1992 года беларускае грамадзянства набылі звыш ста тысяч чалавек, якія раней жылі за межамі рэспублікі, і толькі 3,5 тысячы адмовіліся ад яго ў сувязі з выездам з Беларусі.

У сувязі з маючымі адбыцца парламенцкімі слуханнямі па правах чалавека кіраўнік Адміністрацыі падкрэсліў, што падрыхтоўка да іх і сам ход слуханняў павінны шырока асвятляцца сродкамі масавай інфармацыі.

**БЕЛТА.**

## Старонка Паўла Глобы

**17 чэрвеня, серада**

РЭКАМЕНДАЦЫІ. Будзьце вынаходлівымі ў кантактах, пазбягайце спрэчак, канфліктаў. Старанна сачыце за сваімі словамі, не дапускайце грубасці, брыдкаслоўя. Рэкамендуецца чытаць кнігі, а яшчэ лепш — душавыратавальную літаратуру, вывучаць свяшчэнныя тэксты. Для набыцця душэўнай раўнавагі карысна чытаць малітвы. Пастарайцеся займацца справамі, якія прыносяць вам радасць і задавальненне. Добра шыць, рамантаваць прадметы хатняга ўжытку. Рэкамендуюцца прагулкі пешшу, фізічныя практыкаванні, масажы і расціранні. Высокая небяспека дарожна-транспартных здарэнняў. Не рэкамендуецца карыстацца парфумай і касметыкай, стрыгчы валасы і пазногці.

*XXVI ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ ПА ФУТБОЛУ*

# ФІФА абараняе інтарэсы Югаславіі, а французская паліцыя — маёмасць Саудаўскай Аравіі

**Учора на сусветным першынстве па футболу, які праходзіць у Францыі, уступілі ў барацьбу апошнія 6 каманд з 32. Адбылася адна сустрэча ў групе «F», дзе паміж сабой сустракаліся зборныя Германіі і ЗША, а таксама два паядынкі ў групе «G»: Румынія — Калумбія і Англія — Туніс, які брытанцы выйгралі з лікам 2:0.**

Дарэчы, англічан многія прыхільнікі магічных лічбаў прадвызначаюць у чэмпіёны. Справа ў тым, што за апошнія сем чэмпіянатаў свету па два разы залаты Кубак заваёўвалі зборныя Бразіліі (1970, 1994 гг.), Аргенціны (1978, 1986 гг.), ФРГ (1974, 1990 гг.). У суме дзве знамянальныя даты для чэмпіёнаў (у разлік браліся толькі гады «дзесяткі») даюць лічбу 164. І калі адняць ад яе 98 (год правядзення XVI сусветнага першынства), то атрымліваецца лічба 66. А менавіта ў 1966 годзе зборная Англіі, абыграўшы ў дадатковы час каманду Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, заваявала першае месца.

Між тым, 92-гадовы француз, аўтар першага гола чэмпіянатаў свету Люсьен Ларан, а здарылася гэта яшчэ ў 1930 годзе ва Уругваі, лічыць мацнейшай зборнай свету толькі бразільцаў.

Трэнер каманды Францыі Эме Жаке ў фаварыты вылучыў футбалістаў Галандыі, Германіі, Аргенціны, Францыі, Іспаніі... Відаць, з апошнімі ён крыху памыліўся. Падначаленыя Хав'ера Кліментэ нечакана прайгралі стартавы матч моцнай зборнай Нігерыі з лікам 2:3 і вельмі ўскладнілі сабе задачу па выхаду ў 1/8 фіналу. У астатніх сустрэчах, якія прайшлі падчас мінулых выхадных, асаблівых нечаканасцяў не адбылося, аб чым сведчаць вынікі:

**Група «С»:**
Саудаўская Аравія — Данія — 0:1;
Францыя — ПАР — 3:0.

**Група «Д»:**
Парагвай — Балгарыя — 0:0.

**Група «Е» :**
Галандыя — Бельгія — 0:0;
Паўднёвая Карэя — Мексіка — 1:3.

**Група «Н»:**
Ямайка — Харватыя — 1:3;
Аргенціна — Японія — 1:0.

**Група «G»:**
Югаславія — Іран — 1:0.

Між тым, радасць перамогі югаславаў маглі азмрочыць не зусім сумленныя дзеянні групы дэпутатаў германскага парламента. Як вядома, зборная Германіі і Югаславіі трапілі на папярэднім этапе ў адну групу «F» і згуляюць паміж сабой 21 чэрвеня ў Лансе. Дык вось, нямецкія парламентарыі запатрабавалі ў ФІФА выключыць зборную Югаславіі з фінальнага турніру чэмпіянату свету «ў сувязі з крызісам у Косава».

Шэсць гадоў таму, у чэрвені 1992 года, у сувязі з вайной у Босніі і Герцагавіне і ўведзенымі ААН санкцыямі супраць СРЮ, югаслаўская зборная, якая ўжо прыбыла на фінал чэмпіянату Еўропы ў Швецыю, была адхілена ад удзелу ў турніры. Па гэтых жа прычынах адна з мацнейшых зборных кантынента не была дапушчана да ўдзелу ў заключнай стадыі чэмпіянату свету-94 у ЗША.

На гэты раз югаславаў «пранесла». Прэс-сакратар Міжнароднай федэрацыі футбола Кейт Купер заявіў, што ФІФА ў сваёй палітыцы кіруецца лініяй ААН. Паколькі Югаславія выйшла ў фінальную частку чэмпіянату і ад ААН не паступіла ніякіх дырэктыў, няма ніякіх падстаў для перагляду нашай пазіцыі».

А вось зборнай Саудаўскай Аравіі ў Францыі не шанцуе. Не паспелі яны ачомацца ад паражэння ад датчан з лікам 0:1, як іх напаткала яшчэ адна непрыемнасць: у атэлі паблізу горада Ліль былі абрабаваны 10 пакояў, зарэзерваваных для футбалістаў і трэнераў Саудаўскай Аравіі. Памеры ўрону пакуль высвятляюцца. Аднак дакладна вядома, што абрабаванне адбылося ў той момант, калі зборная Саудаўскай Аравіі адправілася ў Ланс на матч з датчанамі.

Не за гарамі і другая групавая сустрэча са зборнай Францыі. Яна пройдзе 18 чэрвеня, пасля чаго, відаць, аравійцам прыйдзецца пакаваць чамаданы. «Чорная паласа», інакш і не скажаш.

Сёння пачынаецца другі круг папярэдняга этапа. Сустракаюцца: група «А» Шатландыя— Нарвегія, Бразілія — Марока.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»*

# «СНД ПАВІННА СТАЦЬ САЮЗАМ НАРОДАЎ, А НЕ КІРАЎНІКОЎ ДЗЯРЖАЎ»

У жыцці Міжпарламенцкай асамблеі СНД наступае новы этап. Бадай, менавіта так трэба ахарактарызаваць 11-ю сесію МПА, якая адкрылася ў панядзелак, 15 чэрвеня, у Санкт-Пецярбургу. І з думкай яе старшыні Ягора Строева цяжка не пагадзіцца. На Савеце МПА, які папярэднічаў пачатку яе работы, прыярытэтнымі напрамкамі дзейнасці асамблеі ён назваў пытанні фарміравання агульнай эканамічнай прасторы, гарманізацыі гаспадарчага заканадаўства, выпрацоўкі агульных прававых асноў сацыяльнай абароны насельніцтва. Дэлегацыю беларускіх парламентарыяў на гэтым форуме ўзначаліў Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў.

У нядзелю прайшлі пасяджэнні пастаянных камісій МПА па прававых пытаннях; па эканоміцы і фінансах; па пытаннях абароны і бяспекі і інш. На камісіі па знешнепалітычных пытаннях член Савета Рэспублікі Уладзімір Крук прапанаваў унесці змяненні ў праект мадэльнага закона «Аб дыпламатычнай службе». На яго думку, гэты дакумент не адпавядае асноўным палажэнням Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, міжнародным юрыдычным нормам.

Адно з асноўных пытанняў, якое было разгледжана на Савеце МПА, — удзел Міжпарламенцкай асамблеі ва ўдасканаленні дзейнасці СНД і яго рэфарміраванні. На парадку дня яно лічылася першым і было ўключана ў яго па прапанове старшынь палат Нацыянальнага сходу Беларусі Паўла Шыпука і Анатоля Малафеева. Па выніках абмеркавання гэтага пытання Старшыні Савета МПА Ягору Строеву было даручана арганізаваць узаемадзеянне МПА са Спецыяльным міждзяржаўным форумам, створаным рашэннем Савета кіраўнікоў урадаў вясной гэтага года.

Яшчэ адна ініцыятыва беларускага боку — аб удзеле МПА ў дзейнасці Міжпарламенцкага Саюза і іншых міжпарламенцкіх арганізацый — вылілася ў пастанову Савета МПА па гэтым пытанні. Яго абгрунтаванне было падрыхтавана і накіравана Ягору Строеву Старшынёй Савета Рэспублікі Паўлам Шыпуком. У ёй адзначалася, што практыка дзейнасці дэлегацый на канферэнцыях МПС сведчыць аб тым, што найбольшага поспеху ў дасягненні сваіх мэтаў дабіваюцца дэлегацыі краін, якія аб'ядналіся (як правіла, па тэрытарыяльнай прымеце) для адстойвання сваіх інтарэсаў. Павел Шыпук прапанаваў стварыць на базе дэлегацый, якія прадстаўляюць краіны СНД у МПА, адпаведную геапалітычную групу з умоўнай назвай «Усход—Захад». Таксама мелася на ўвазе, што ў яе могуць увайсці і дэлегацыі, якія не з'яўляюцца членамі іншых геапалітычных груп. На думку Старшыні Савета Рэспублікі, такую групу неабходна стварыць ужо да пачатку 100-й Канферэнцыі МПС, якая адбудзецца ў Маскве восенню 1998 года. Савет МПА аднадушна падтрымаў гэту прапанову. З яго абгрунтаваннем на пасяджэнні выступаў член Савета рэспублікі Міхаіл Матусевіч: «Еўраазія» — так вырашана назваць новае аб'яднанне. Яе асноўнай мэтай стане фарміраванне агульных падыходаў у вырашэнні прынцыповых пытанняў і вылучэнні сумесных ініцыятыў парламенцкіх дэлегацый у міжнародных парламенцкіх арганізацыях.

Савет МПА разгледзеў таксама пытанні аб зваротах палат Федэральнага сходу Расіі ў сувязі з парушэннем латвійскімі ўладамі агульнапрызнаных правоў чалавека; аб мерах па мірнаму ўрэгуляванню канфлікту ў Абхазіі і Грузіі; аб праектах канвенцый «Аб барацьбе з тэрарызмам» і аб «Калектыўнай эканамічнай бяспецы» і шэраг іншых. Усяго на 11-е пленарнае пасяджэнне МПА вынесена амаль 20 пытанняў. Сёння, у аўторак, у рамках асамблеі пройдзе сумеснае пасяджэнне Савета МПА СНД і Бюро Парламенцкай асамблеі АБСЕ. У саставе еўрапейскай дэлегацыі, якую ўзначальвае Старшыня Парламенцкай асамблеі АБСЕ Хав'ер Руперэс, 16 чалавек. Адно з асноўных пытанняў, якое мяркуецца абмеркаваць — аднаўленне членства Беларусі ў еўрапейскіх парламенцкіх дэлегацыях. У гэты ж дзень штаб-кватэра МПА СНД у Санкт-Пецярбургу стане таксама месцам правядзення пасяджэння Бюро Міжпарламенцкага камітэта і шостага пасяджэння МПК. На ім мяркуецца разгледзець мадэльныя законы «Аб асновах транспартнай дзейнасці»; «Аб міграцыі», «Аб рэгіёнах прыгранічнага супрацоўніцтва», «Аб барацьбе з тэрарызмам» і інш. Мяркуецца разгледзець і пытанне аб стварэнні адзінай эканамічнай прасторы ў рамках МПК.

**Аляксандр КРЫЖАНОЎСКІ, прэс-служба Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу.**

# Хельсінкскі камітэт прапаноўвае супрацоўніцтва

**Аддзяленні ва ўсіх абласных цэнтрах, а таксама ў Бабруйску, Пінску і Петрыкаве, больш за 20 прадстаўніцтваў — такую разгалінаваную структуру мае сёння Беларускі Хельсінкскі камітэт. Гэтая грамадская праваабарончая арганізацыя, зарэгістраваная Міністэствам юстыцыі ў канцы 1995 года, за два з паловай гады дзейнасці не толькі паспела набыць вядомасць сярод жыхароў беларускай дзяржавы, але стала добра вядомай нават за мяжой.**

Але, нягледзячы на тое, што БХК атрымаў нядаўна прэстыжную міжнародную ўзнагароду, паводле слоў яго старшыні Таццяны Працька, галоўнай мэтай дзейнасці члены БХК лічаць аказанне юрыдычнай дапамогі і абарону правоў непасрэдна грамадзян беларускай краіны. Гэта робіцца не толькі шляхам інфармавання грамадскасці аб рашэннях міжнародных арганізацый, але і праз штодзённую працу грамадскай прыёмнай БХК, куды кожны можа прыйсці са сваёй бядой.

На нядаўняй прэс-канферэнцыі, дзе кіраўніцтва Беларускага Хельсінкскага камітэта прадстаўляла вынікі работы за пяць месяцаў гэтага года, адзначалася, што колькасць зваротаў у арганізацыю апошнім часам значна ўзрасла. Прычыны гэтага як у папулярнасці БХК, так і ў тых тэндэнцыях, якія развіваюцца ў беларускім грамадстве. Так, ужо сёлета ў камітэт звярнуліся 211 чалавек, на яго адрас паступіла больш за 160 пісьмовых заяў. Як адзначыла Т. Працька, сярод іх шмат скаргаў на работу судоў, на непраўамерныя паводзіны супрацоўнікаў міліцыі. Па яе словах, у заявах адчуваецца і праблема беларускай мовы.

Відавочна, што арганізатары прэс-канферэнцыі не толькі ставілі мэтай зрабіць справаздачу пра сваю дзейнасць. Яны не хавалі заклапочанасці ад таго, што ў апошні час адзначаецца імкненне скампраметаваць дзейнасць Беларускага Хельсінкскага камітэта. У прыватнасці, неаднаразова БХК спрабавалі абвінаваціць у палітычнай дзейнасці, хаця яго члены ўвесь час падкрэсліваюць, што займаюцца толькі праваабарончай працай. Пра тое, што да розных палітычных сіл яны ставяцца аднолькава, якраз і сведчыць іх практычная работа: на мерапрыемствы, арганізатарам якіх выступае БХК, запрашаюцца прадстаўнікі розных грамадскіх і палітычных арганізацый, прадстаўнікі ўладных структур.

Кіраўніцтва БХК звярталася з пісьмамі ў Адміністрацыю Прэзідэнта, ва ўрад, у Нацыянальную тэлерадыёкампанію, да палітычных партый, дзе прапаноўвала супрацоўніцтва дзеля адной мэты: стварэння ўмоў для забеспячэння правоў беларускіх грамадзян. Зараз пры разглядзе канкрэтных скаргаў БХК цесна супрацоўнічае з Генеральнай пракуратурай, МУС, Мінскім гарвыканкамам. А ў год, калі будзе адзначацца 50-годдзе з моманту прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, здаецца, як ніколі важна аб'яднаць намаганні розных праваабарончых арганізацый.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ПІРАМІДА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ:
## канструкцыя, якая ўжо не адпавядае часу

**Як мы ўжо паведамлялі, 11 чэрвеня г. г. адбыліся парламенцкія слуханні па пытанню «Дзяржаўная нацыянальная праграма «Культура» і ўдасканаленне заканадаўчай базы галіны ў Рэспубліцы Беларусь. Для ўдзелу ў слуханнях былі запрошаны вядомыя дзеячы культуры і мастацтва рэспублікі, вучоныя, прадстаўнікі ўрада, творчых саюзаў, міністэрстваў, ведамстваў. Як аказалася, абмяркоўвалі зусім нават не праграму «Культура», якую ніхто яшчэ ў вочы не бачыў. Па словах міністра культуры Беларусі Аляксандра Сасноўскага, яна будзе завершана ў канцы гэтага—пачатку наступнага года. Таму выступаючыя — людзі, сумленныя і неравнадушныя, — у большасці сваёй рабілі грунтоўныя справаздачы, у якіх па традыцыі расказвалі аб сваіх дасягненнях і цяжкасцях.**

У ЗВЕДЗЕНАЯ за гады савецкай улады піраміда беларускай культуры (гэта дзіўная, груваcтая канструкцыя!), як ні дзіўна, усё яшчэ не развалілася, хаця перастала існаваць дзяржава, якая ў яе ўдыхнула жыццё. Піраміда гэта звонку захоўвае ранейшыя абрысы. Але цаглінкі з яе тамсям павывальваліся, па фундаменту пайшлі расколіны. Вядома, і піраміда Хеопса не мае ранейшай велічы.

Небагатая ж наша дзяржава, якая, зноў жа па словах міністра культуры, жыве ўжо ў новым вымярэнні, тым не менш, стараецца гэту піраміду захаваць: то там дзірку залепіць, то тут расколіну заштукуе. Не віна гэта Міністэрства культуры, а бяда, што не мае яно дасюль навуковай канцэпцыі, якая хаця б у агульных рысах абмалявала шляхі і накірункі развіцця нацыянальнай культуры ў новым стагоддзі. А Міністэрству культуры, несумненна, патрабуецца сучасная канцэпцыя кіравання сферай культуры. Асабліва востра стаяць сёння праблемы, звязаныя са стварэннем прававой базы ў сферы культуры, пошукам дзяржаўных і рыначных рычагоў у кіраванні культурай, эфектыўнымі формамі падрыхтоўкі кадраў культуры, развіццём прафесійнага мастацтва, захаваннем помнікаў матэрыяльнай культуры, падтрымкай усіх відаў народнай творчасці, фальклору, традыцыйнага мастацтва народа і народных промыслаў, з пераводам інфармацыі ў сферы мастацтва на сучасныя тэхналогіі. Не меншае значэнне маюць і пытанні ідэалогіі ў сферы мастацтва, узаемаадносінаў культуры і дзяржавы, культуры і палітыкі, культуры і адукацыі, культуры і рэлігіі.

Лепш позна, чым ніколі. Беларускія дзяржаўныя «мужы» нарэшце змянілі сваё стаўленне да культуры, як да чагосьці другараднага, падсобнага. У дакументах, якія тлумачаць неабходнасць новай дзяржаўнай навукова-тэхнічнай праграмы ў галіне культуры, чорным па беламу запісана: «Беларуская нацыянальная культура з'яўляецца важнейшым кампанентам сучаснага жыцця грамадства».

Парламенцкія слуханні па дадзенаму пытанню хаця і не сталі важнай падзеяй для ўсяго грамадства, тым не менш, далі магчымасць убачыць шырокую і рэальную карціну становішча культуры ў грамадстве.

Мы яшчэ вернемся да аналізу культурнай сітуацыі ў Беларусі. А пакуль што прапануем асобныя месцы з выступленняў удзельнікаў парламенцкіх чытанняў, якія, спадзяёмся, дадуць і вам, паважаныя чытачы, магчымасць убачыць існуючыя праблемы з усіх бакоў.

***Анатоль МАЛАФЕЕЎ, старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь***

— Дзякуючы прынятым кіраўніцтвам рэспублікі мерам, сярод якіх указы і распараджэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па Нацыянальнай бібліятэцы, па Нацыянальнаму тэатру оперы і балета, па стварэнню спецыяльнага прэзідэнцкага фонду падтрымкі культуры, па асобных праблемах творчых саюзаў, па вызваленню некаторых галін культуры ад падаткаў, у большасці абласцей за апошнія гады быў затарможаны працэс скарачэння сеткі ўстаноў культуры, акрэсліліся некаторыя пазітыўныя працэсы практычна ва ўсіх галінах культуры. Выконваюцца планы будаўніча-рэстаўрацыйных работ, асвойваюцца выдзеленыя сродкі на гэтыя мэты. У той жа час у сферы культуры і мастацтва нямала сваіх праблем, вострых нявырашаных пытанняў. Не поўнасцю сёння працуе Закон аб культуры, асабліва ў частцы бюджэтнага фінансавання і прадастаўлення неабходнай дзяржаўнай падтрымкі ўстановам культуры і яе работнікам. Нізкай працягвае заставацца заработная плата працаўнікоў гэтай сферы. На нездавальняючым узроўні знаходзіцца фарміраванне бібліятэчных фондаў, вострымі застаюцца пытанні капітальнага рамонту, матэрыяльна-тэхнічнага аснашчэння ўстаноў культуры, творчых Саюзаў і культурных фондаў, а таксама замацаванне кадраў, асабліва на вёсцы, дзе абазначыўся яўны ўпадак культуры, хаця ён і раней не быў высокім.

***Аляксандр САСНОЎСКІ, міністр культуры Рэспублікі Беларусь***

— Культура ва ўсім свеце на парозе трэцяга тысячагоддзя перайшла да якасна новага этапа свайго быцця, што звязана з пераглядам прыярытэтаў. Калі раней падкрэслівалася думка аб тым, што культура — гэта перш за ўсё прадукт сацыяльных адносінаў, вынік чалавечай дзейнасці, то цяпер яна разглядаецца перш-наперш як дынамічная сіла, якая фарміруе і вызначае ўсё жыццё грамадства, самым рашаючым чынам уплывае на стан і развіццё сукупнасці грамадскіх адносінаў. У канцы сакавіка—пачатку красавіка беларускай дэлегацыі давялося ўдзельнічаць у міжурадавай канферэнцыі па палітыцы ў галіне культуры ў інтарэсах развіцця ў Стакгольме, дзе прысутнічалі 140 міністраў культуры з усёй планеты. Прынцыпы сучаснай культурнай палітыкі еўрапейскіх дзяржаў былі выкладзены ў дакументах «Праект плана дзеянняў». Палажэнні гэтага дакумента ўяўляюць сабой сучасныя навуковыя распрацоўкі-рэкамендацыі. У іх сказана, што 1 працэнт ад усіх бюджэтных сродкаў павінен выдаткоўвацца на культуру. У нас жа на гэтыя мэты ідзе 1,6 працэнта. А па закону павінна выдзяляцца тры працэнты.

Развіццё беларускай нацыянальнай культуры мае сваю ўнутраную логіку. Але разам з тым дзяржаўная стратэгія можа садзейнічаць гэтаму развіццю і апірацца на яго. Таму вялікае значэнне мае вызначэнне прыярытэтаў, прынцыпаў, акрэсленых доўгатэрміновых мэтаў і задач. Да іх ліку мы адносім фарміраванне сродкамі культуры інтэлектуальных і маральных падстаў стварэння дэмакратычнай прававой дзяржавы, захаванне нацыянальна-культурнай аўтаноміі беларускага народа як адной з умоў захавання яго суверэнітэту пры поўным адмаўленні ад тэндэнцый да культурнай аўтаркіі і духоўнай самаізаляцыі, зберажэнне культурна-гістарычнай спадчыны, кансалідацыя дзеячаў нацыянальнай культуры на аснове арганічнага спалучэння гуманістычных традыцый народнай культуры беларусаў, культур іншых народаў, сусветнай культурнай спадчыны.

***Мікалай БЕЛАНОЎСКІ, намеснік старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі***

— Пра сацыяльнае становішча работнікаў культуры і мастацтва ўсе ведаюць, але чамусьці не любяць пра гэта казаць з высокіх трыбун. Прадугледжанае Генеральным пагадненнем паміж урадам, рэспубліканскімі аб'яднаннямі наймальнікаў і прафсаюзаў паэтапнае набліжэнне сярэдняй заработнай платы работнікаў сацыяльна-культурнай сферы да сярэдняй заработнай платы работнікаў прамысловасці проста не выконваецца. Атрымліваецца, што людзі, якія працуюць у культурнай сферы, атрымліваюць за сваю працу ўдвая меншую зарплату, чым у прамысловасці.

Пры такім становішчы людзі не могуць забяспечыць мінімальныя патрэбы нават свае, не гаворачы ўжо пра дзяцей. Бо атрымліваюць суму, якая ніжэй (на 1 мая) за мінімальны спажывецкі бюджэт. Па каларыйнасці харчавання гэты мінімальны спажывецкі бюджэт не дасягае ўзроўню, устаноўленага яшчэ ў 1936 годзе Лігай нацый.

Прынятая 14 мая г.г. пастанова ўрада № 746 «Аб дадатковых мерах па матэрыяльнаму стымуляванню працы работнікаў бюджэтнай сферы» не вырашае праблемы.

Ураду ў самы бліжэйшы час неабходна перагледзець сістэму аплаты працы работнікаў культуры і мастацтва з тым, каб яе ўзровень у нізкааплатнай катэгорыі быў не ніжэй рысы беднасці, а сярэдняя заработная плата па галіне — не менш чым мінімальны спажывецкі бюджэт. Бо інакш сфера культуры акажацца без кадраў. Людзі пачалі звальняцца. Толькі ў Мінску за пяць месяцаў гэтага года звольніліся 93 работнікі тэатра, бібліятэк, дзіцячых музычных школ.

Яшчэ адной вострай праблемай для работнікаў сферы культуры з'яўляецца жыллёвая. У лік катэгорыі грамадзян, якія атрымліваюць жыллё бясплатна, яны не трапілі. Яго трэба купляць або будаваць за свае грошы. А дзе ж іх узяць пры такім становішчы спраў?

Асобнай гаворкі заслугоўвае аздараўленне работнікаў сферы культуры, у тым ліку дзяцей. Сёлета «непад'ёмнымі» сталі пуцёўкі і ў дзіцячыя аздараўленчыя лагеры. У выніку ні Беларускі універсітэт культуры, ні Нацыянальная бібліятэка, ні Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы, ні многія іншыя не атрымалі ніводнай пуцёўкі на адпачынак дзяцей у першую змену.

Асобна хачу сказаць аб так званай ведамаснай культуры — 238 палацах і дамах культуры, 349 бібліятэках прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў прафсаюзаў рэспублікі. Яны не падпарадкоўваюцца Мінкульту, але добрасумленна робяць вельмі важную дзяржаўную справу па культурнаму абслугоўванню дарослага і дзіцячага насельніцтва. Федэрацыя прафсаюзаў робіць усё магчымае, каб дапамагаць утрымліваць гэтыя ўстановы. Але ў такой сітуацыі, можа, усё ж варта пераразмеркаваць сродкі ў культуры са шматлікіх святаў і фэстаў на тое, каб даць магчымасць многім работнікам культуры проста людзьмі звацца. Бо цяпер культура Беларусі не жыве і вольна дыхае, а змагаецца за выжыванне.

***Рычард СМОЛЬСКІ, рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў***

— Сэнс сённяшняй сустрэчы і заключаецца ў тым, каб выслухаць як мага больш розных ацэнак, прапаноў, ідэй і зрабіць на іх аснове аб'ектыўныя і рэалістычныя высновы дзеля асноўнага — паспяховага развіцця дзяржаўнага будаўніцтва, дзе культура павінна адыгрываць значна большую ролю, чым цяпер. І справа тут не толькі ў фінансаванні — гэта банальная рэч. Перш за ўсё ў адносінах да культуры, да мастацкай творчасці карысным было б увесці для кіраўнікоў усіх узроўняў своеасаблівую культурную дэкларацыю. Прайшоў год — і зрабі, калі ласка, справаздачу: што чытаў, якія выстаўкі наведаў і г. д. Вядома, гэта жарт, але праблема тут ёсць, і даволі сур'ёзная. Хаця б ужо тым бясспрэчным фактам, што ўзровень любой еўрапейскай нацыі вызначаецца культурнымі запатрабаваннямі яе элітнай часткі.

***Пётр ЖУШМА, дэпутат Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь ад Іванаўскай выбарчай акругі № 19***

— Праблемы, існуючыя ў культуры, аднатыпныя для ўсіх раёнаў рэспублікі. Таму мне хацелася б гаварыць аб тых прычынах, што спрыяюць іх нараджэнню. Калі мы не зразумеем прычын, то і праблем вырашыць не зможам. Як вядома, ні адна дзяржава не змагла дасягнуць эканамічнага пад'ёму, не вырашаючы праблем культуры. Калі эканоміка не дадае культуры, то гэтая самая культура цягне за сабой на дно эканоміку. Гэта аксіёма. Толькі духоўна развіты, адукаваны, культурны чалавек зможа асэнсавана вырашаць тыя задачы, якія стаяць перад эканомікай. Духоўным жабраком лёгка кіраваць. Мне здаецца, што на сённяшні дзень наш урад так і не змог распрацаваць канцэпцыі выхаду культуры з крызісу. Вынік ёсць там, дзе існуе сістэма. У нас яе няма, таму што не вызначана месца культуры ў рынку. Мы жывём у пераходны перыяд, і шмат гаворым пра адаптацыю вытворчасці да рыначных адносінаў, але забыліся зрабіць гэта ў адносінах да культуры.

Наш урад займаецца ўсім, але толькі не культурай. Чаму дасюль не вырашана пытанне з беларускім гуманітарным ліцэем? Увесь час вакол гэтай установы нейкі нездаровы ажыятаж. Хачу зрабіць дэпутацкі запыт ураду, каб ён аб'ектыўна падышоў да вырашэння пытання з памяшканнем для ліцэя, які сёння стаў сапраўды школай выхавання патрыятызму.

Надышоў час думаць аб сістэмных падыходах у культуры. У праграме павінна быць прадугледжана, якія мастацкія калектывы варта адпусціць на свабоду, там, дзе людзі самі могуць зарабіць грошы, дзяржава не павінна перашкаджаць, а толькі стварыць умовы для іх творчай дзейнасці. Другі момант — вызначыць тыя калектывы, якім патрэбна дзяржаўная падтрымка праз высокую заработную плату. Для гэтага, я думаю, у дзяржавы знойдуцца сродкі, і не ўзнікне з такой нагоды інфляцыйнага крызісу.

***Мы яшчэ вернемся ў сваёй газеце да праблем, узнятых на парламенцкіх чытаннях, і пазнаёмім вас з рэкамендацыямі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адносна праграмы «Культура» і ўдасканалення заканадаўчай базы ў рэспубліцы.***

**Таццяна АНТОНАВА.**

# І ўзвышанае, і зямное







***— УСЁ ЗНАХОДЗІЦЬ САБЕ МЕСЦА ў творах Уладзіміра Гарзана. Хаця сам аўтар усё гэта творамі (у высокім сэнсе гэтага слова) па сціпласці сваёй не лічыць. Маўляў, звычайная забава з дрэвам, а сапраўдная яго справа там, на вытворчасці, ля распаленага абсталявання кацельні. Працуе Уладзімір у кацельні пансіяната, які размясціўся на маляўнічым беразе возера «Свіцязь». Вольнага часу пасля змены хапае, таму і ладзіцца паціху карпатлівая справа — разьба па дрэву. Увесь пакой аздобіў драўлянымі карункамі, вясёлымі фігуркамі, выявамі жывёл і птушак. Шмат іх падорана суседзям, у маленькім пасёлачку кожны пакажа вам, дзе Уладзімір прыклаў свае ўмелыя рукі, каб упрыгожыць аканіцы, ганак, дзверы.***

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

**Для таго, каб дакладна пералічыць усе званні і рэгаліі Міхаіла Антонавіча Казінца, спатрэбіцца нямала газетнай плошчы: рэктар Беларускай акадэміі музыкі, народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар, кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя Іосіфа Жыновіча, кіраўнік сімфанічнага аркестра акадэміі музыкі «Маладая Беларусь»...**

**А калі забыцца пра ўсе высокія званні і адказныя пасады, то Міхаіл Антонавіч — вельмі адкрыты і шчыры чалавек з добрай усмешкай, які імгненна зараджае суразмоўцаў сваім аптымізмам, прагай да жыцця і любоўю да музыкі.**

**Сустрэча карэспандэнта «Звязды» з маэстра Казінцом адбылася на фестывалі «Магілёўская музычная вясна», дзе адбылося ўшанаванне з нагоды 60-гадовага юбілею гэтага вядомага ў нашай краіне чалавека.**



## Міхаіл КАЗІНЕЦ:

# «САМАЕ КАНВЕРСОЎНАЕ Ў НАС — ГЭТА МАСТАЦТВА...»

Ведаеце, свае 60 гадоў я фізічна не адчуваю. І гэта не тая дата, калі трэба падводзіць нейкую рысу. Для мяне гэта магчымасць успомніць усё добрае, што людзі за гэтыя гады прынеслі мне, і падумаць, як лепш аддаць тое, што назапасіў дзякуючы дабраце чалавечай, тым, хто зараз побач са мной.

Вядома, на душы цёпла і сардэчна, а вось па гадах — крыху цьмяна і пахмурна, бо гэта ўжо прыйшла «трэцяя маладосць». Але колькі мне Бог ні адпусціць яшчэ жыцця, я хацеў бы быць пры сваёй справе. Пакуль, як кажуць, «не псую баразну», а вось калі адчую, што «конь» не цягне — тады і пойдзем на спачынак, але аб гэтым пакуль не думаю...

**— Міхаіл Антонавіч, якія, на ваш погляд рэктара, самыя значныя, адчувальныя змены адбыліся апошнім часам у акадэміі музыкі, якія самыя вялікія праблемы трэба вырашаць яе калектыву?**

— Я б не хацеў тут скардзіцца на гаротны наш стан і цяжкасці, таму што такія ж цяжкасці адчуваюць усе сацыяльныя сферы, а не толькі мастацтва і адукацыя. А ўвагу дзяржавы мы адчуваем: акадэмія музыкі атрымала новы будынак, і з пачатку новага навучальнага года туды пераедуць два факультэты.

Што датычыць змен унутраных, дык павінен сказаць, што сёння студэнт стаў больш прагматычным у адносінах да вучобы. Кожны цяпер дакладна разумее, што не толькі атрыманне дыплома забяспечыць яму дарогу ў жыццё, а ён абавязкова павінен стаць спецыялістам, у якім зацікаўленыя. Я лічу, што гэта нармальна, бо, сапраўды, жыццё — гэта не абед у мамы, тут трэба самому даказваць, што ты на нешта здатны. Я сам быў студэнтам акадэміі музыкі два разы — закончыў два факультэты, 13 гадоў з'яўляюся рэктарам, а таму магу сцвярджаць, што студэнты зараз сталі больш стараннымі.

Але ёсць іншая рэч, якая мяне турбуе. Кожны, хто паступае ў акадэмію музыкі, практычна не вырашаў самастойна свайго лёсу, а гэта за яго зрабілі бацькі ў пяці-, шасцігадовым узросце. Нашага студэнта нельга параўнаць з іншымі, таму што да акадэміі ён правучыўся па музыцы ўжо 10—12 гадоў. Не трэба забывацца і на тое, што ён шмат у чым быў абдзелены ў дзяцінстве, таму што музыка патрабуе вялікай ахвяры, адзіноцтва, роздуму. І я адношуся да нашых студэнтаў як да асобаў, адораных Богам, лёсам і маці-прыродай. Як правіла, на 70 працэнтаў — гэта выключна адораныя маладыя людзі...

І мне хацелася, каб іх шматгадовыя намаганні адбіліся на іх далейшым лёсе, на адносінах да іх прафесіі, да ацэнкі іх працы таксама і ў матэрыяльным плане.

**— А як вы сёння ацэньваеце матэрыяльную ацэнку людзей мастацтва і, у прыватнасці, выкладчыкаў акадэміі музыкі?**

— Ну што тут сказаць? Няма крытэрыяў, каб адрозніць «дрэнна» ад «вельмі дрэнна»... Я лічу, што тое, што сёння атрымліваюць нашы выкладчыкі, прафесары і дацэнты, — гэта вельмі нізкая ацэнка вышэйшай школы ўвогуле і прэстыжу нашай прафесіі.

Але зноў-такі не стаў бы нас выдзяляць асобна. Таму што стан нашага грамадства — гэта цяжкая ломка ўсяго, самога сябе таксама, пераход у нейкі іншы стан мыслення, адносінаў людзей. І гэта вельмі няпроста. Мы складваліся ў адных абставінах, зараз перайшлі ў іншыя, і ці будзе з намі ўсё добра — гэта сказаць цяжка.

Але людзі творчасці — вялікія аптымісты, яны вельмі загартаваныя жыццём. Таму што на іх шляху заўсёды больш не перамог, а паражэнняў, якія больш за ўсё праходзяць праз іх саміх. І заўсёды ратуе толькі надзея: ну нічога, будзе іншае выпрабаванне, і я дакажу... І той, хто гэта вытрымлівае, даказвае, той загартаваны на ўсё.

Я лічу, што будзе лепш. Павінна быць лепш. Таму што як бы ні было цяжка, на сённяшні дзень самае канверсоўнае ў нас — гэта мастацтва! За апошнія сем гадоў акадэмія музыкі Беларусі дала 50 лаўрэатаў міжнародных конкурсаў самага высокага ўзроўню. Вось вам апошні прыклад: нядаўна духавы аркестр акадэміі «Фанфары Беларусі» вярнуўся з міжнароднага конкурсу, які праходзіў у Люксембургу. У ім бралі ўдзел 18 лепшых еўрапейскіх духавых аркестраў Еўропы, і «Фанфары Беларусі» прывезлі з конкурсу ўсе магчымыя прызы. Гэта гаворыць аб вялікім узроўні падрыхтоўкі і таленавітасці нашых студэнтаў.

**— А ці не з'язджаюць выхаванцы акадэміі музыкі за мяжу, дзе для талентаў існуюць больш спрыяльныя матэрыяльныя ўмовы?**

— За апошнія пяць гадоў чалавек 38—40 з'ехала. Гэта шмат. Я часам кажу, што небагатая Беларусь рыхтуе для багатага Захаду цудоўныя кадры. Але, ведаеце, я лічу, што студэнт, які заваяваў шмат прызоў міжнародных конкурсаў, паказаў сябе, ён мае права распарадзіцца сваім лёсам так, як ён жадае. Магчыма, пройдзе час, і ён вернецца назад. Упэўнены, што вернецца, але і праславіць нас за мяжой. «Адкуль ты?» — «З Беларусі». — «Дзе ты вучыўся?» — «У Беларускай акадэміі музыкі»... Праз нашых музыкантаў нас будуць ведаць у свеце, што ёсць такі цудоўны куток у цэнтры Еўропы — Беларусь!

**— Як вы сёння ацэньваеце цікавасць людзей у нашай краіне да сур'ёзнага мастацтва? Поўныя залы на канцэртах — гэта рэальнасць ці толькі яшчэ мара, тым больш падчас ломкі грамадства?**

— Была вялікая абыякавасць наогул — і да музыкі, і да тэатра — недзе ў 1991—95 гадах. Але зараз я назіраю пад'ём! Я не магу растлумачыць, чым гэта выклікана. Магчыма, гэта адбываецца з-за таго, што чалавек заўсёды шукае падтрымку, апору і самога сябе ў духоўнасці. Ну, калі цяжка з каўбасой, дык не сядзець жа і не плакаць... Мастацтва сагравае душу чалавека!

**— Вы неаднаразова падкрэслівалі, што беларуская народная музыка мае сваю адметную філасофію. Магчыма, яна таксама адпавядае патрэбам сённяшняга слухача?..**

— Я лічу, што зараз існуе нейкая аднабаковасць ва ўспрыманні беларускай народнай музыкі — як песеннай, так і танцавальнай. Добра, што стварылася шмат народных гуртоў, але людзі сталі адчуваць беларускую песню як суцэльную весялосць, лямант і вытанцоўку. А вось я мяркую, што ў нашай песні шмат роздуму, спакою, у ёй нават ёсць нешта ад калыханкі. Бо чалавек можа думаць толькі ў цішыні, праспяваць нешта сабе ці іншаму... І вось такая песня, здаецца, захавалася толькі ў акадэмічным хоры імя Цітовіча і яшчэ двух-трох калектывах. Беларускасць нашай песні ў тым, што яна ў многім мінорная па сваёй мелодыі і вельмі чалавечная і цёплая па душэўнасці. Гэтую плынь нам забываць нельга...

**— Міхаіл Антонавіч, на вашы плечы ўскладзена шмат работы і шмат адказнасці: кіраваць двума калектывамі, акадэміяй музыкі, гастраляваць...**

— Калі ў 1985 годзе мяне запрасілі на пасаду рэктара, то я падумаў, што быць проста чыноўнікам я не здолею, таму што па свайму стылю жыцця, складу характару не змагу існаваць без калектыву. Таму і папрасіў пакінуць за сабой кіраўніцтва аркестрам імя Жыновіча.

Але і працаваць рэктарам — гэта, на маю думку, не азначае сядзець за сталом і некім кіраваць. Рэктар павінен стварыць умовы для працы выдатных прафесараў і дацэнтаў акадэміі, а кіраваць імі не трэба, бо кожны з выкладчыкаў цудоўна валодае сваёй прафесіяй. Гэта «каманда», якая робіць адну справу.

А што датычыцца сімфанічнага аркестра «Маладая Беларусь», то я вырашыў яго ўзначаліць у 1991 годзе менавіта таму, што мяне многае ў гэтым калектыве не задавальняла. І калі я — рэктар, і незадаволены чымсьці, дык трэба ўзяць касу і касіць самому! Сёння мы іграем з аркестрам шэсць-сем вялікіх праграм, у нас ёсць свае канцэрты ў філармоніі, свой слухач... І ў акадэміі столькі лаўрэатаў-студэнтаў, я заўсёды магу выбіраць салістаў. А гэта цудоўныя ўмовы для працы! Тым больш добра працаваць са студэнтамі: яны, зразумела, яшчэ толькі ідуць да прафесіяналізму, але яны і вышэй за прафесіяналаў сваімі адносінамі да музыкі і гарачым сэрцам.

Дарэчы, сімфанічны аркестра «Маладая Беларусь» актыўна запрашаюць за мяжу, і ў нас распісаны па гастролях і гэты год, і наступны...

**— А ці адрозніваецца, на вашу думку, замежны слухач ад нашага?**

— Слухач сам па сабе — ён аднолькавы што за мяжой, што тут. Калі іграюць дастойна ці, як кажуць, «экалагічна», то і неадукаваны слухач прымае і ўсё нядрэнна адчувае.

Здаецца, ёсць толькі адно адрозненне паміж замежным і нашым слухачом — розны матэрыяльны стан. Вось калі аркестр «Маладая Беларусь» іграў у Францыі, мы месяц ездзілі па правінцыі, па невялікіх гарадах. Мы ігралі розныя праграмы, і цікаўныя паслухаць нас яшчэ і нешта новае ездзілі за намі ў іншыя мясціны, бо гэта прыносіла ім вялікую душэўную асалоду. Магчыма, і мы дажывём да такіх магчымасцяў...

**— Падчас замежных гастроляў вы іграеце музыку беларускіх кампазітараў?**

— Абавязкова іграем, і яна там цудоўна ўспрымаецца. Гэта ў нас, на жаль, заўсёды было так: вы слухалі музыку замежных кампазітараў, а зараз — беларускіх. А ў нас шмат здабыткаў. Мне здаецца, што патрэбна рэклама, прапаганда... Калі б наша класічная, сур'ёзная, акадэмічная музыка мела такую ж прапаганду, як «папса», дык людзі ставіліся б да яе па-іншаму, палюбілі гэтую цудоўную музыку — Глебава, Мдзівані, Смольскага, Войціка, Кур'яна і шмат іншых кампазітараў.

Ды і мы прызвычаіліся, каб спачатку нас хто-небудзь прызнаў «збоку». Вось скажуць, што мы добрыя, тады і мы ўпэўнімся: глядзі, і праўда, мы ж добрыя! Мы не ўмеем сябе крышачку цаніць. Трэба ганарыцца сабой — і ў гэтым няма нічога страшнага! Мы — цывілізаваныя, добрыя... Мы — нацыя вялікай унутранай культуры, вялікай павагі да ўсіх людзей свету!

**Ілона ІВАНОВА.**

**Фота Аляксандра ЛІЦІНА.**



## ФОТАСЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

*Калі цямнота ахінула сэрца,*
*Калі самота вусны запякла,*
*Я адчуваю: у глыбінях б'ецца*
*Крыніца, што імкнецца да святла.*

*І ты пачуеш, толькі прытуліся*
*Да той вярбы, што гушкала бусла,*
*Натольвае абуджанае лісце*
*Крыніца, што імкнецца да святла.*

*Я ведаю: праб'е да вольнай плыні*
*І забруіць каля майго жытла*
*Пакутная, нязможная святыня —*
*Крыніца, што імкнецца да святла.*

*Сябры і калегі па пяру віншуюць*
***Анатоля БУТЭВІЧА** з паўвекавым юбілеем*
*і зычаць яму ўдачы, плёну і настрою.*
*Хай далёка ад Беларусі сняцца Максіму валошкі...*

*НАПЯРЭДАДНІ*

# СОЛА ДЛЯ МЕЦЦА-САПРАНА

**Спявачцы Ніне Цішко зрабілі прапанову. Цэлы аркестр Жыновіча, з якім яна працуе некалькі гадоў. Ніна Цішко ўжо 25 гадоў спявае. А музыканты і вырашылі: чаму б не наладзіць вечарыну ў гонар салісткі? Хоць сама Ніна болей прывыкла да камернай абстаноўкі, а вялікі аркестр патрабуе вялікай залы. Таму юбілейны вечар артысткі пройдзе ў Вялікай зале філармоніі 17 чэрвеня.**

Багаты голас — ад прыроды. А вось уменне ім распарадзіцца Ніна ўзяла ад настаўнікаў Віленскай, а потым Бакінскай кансерваторый. У Баку яе занесла каханне — паехала туды разам з мужам. І там знайшла «сваю» настаўніцу. Ніна Рэнальда Валацы была салісткай Міланскай оперы, але таксама эмігрыравала, знайшоўшы свой лёс у каўказскай краіне. Можа таму і выкладчыца з яе атрымалася цудоўная. Яна перадала вучням шмат вакальных «хітрыкаў» для таго, каб зберагчы голас, напрыклад, як размаўляць і не стамляцца. Гэтыя ўрокі аказаліся вельмі карыснымі, калі Ніна Цішко пачала працаваць, ужо ў Беларусі, салісткай нашай філармоніі. Пайшло-паехала: планавыя канцэрты па рэспубліцы, творчыя сустрэчы, камерныя вечары, выступленні з аркестрамі. Між іншым, з аркестрамі ёй асабліва падабаецца спяваць — столькі рэзерваў адкрываецца ў голасе, адчуваеш падтрымку ў музыцы, імкнешся да яе...

Яна любіць спяваць. І заўсёды марыла, каб дома быў свой акампаніятар. Таму старэйшую дачку аддала вучыцца на фартэпіяна. Бо муж — скрыпач, добры музыкант і выкладчык, але спяваць з ім не будзеш. Дачка ўжо вырасла і аднойчы яна выступала разам з маці. А сын — таксама скрыпач. Яго сталі вучыць музыцы, калі пачалася афганская вайна. Каб рос таленавітым добрым музыкантам, не трапіў у тое пекла. Нармальны клопат маці пра сваё дзіця. А яшчэ маці думала пра тое, каб хлопчык калі-небудзь не пачаў хадзіць у бяздзеянні па пад'ездах і біць вокны. Бо музыка — не толькі мастацтва, але і выхаванне.



Можа ўласны клопат пра дзяцей дае спявачцы дадатковае натхненне. У яе рэпертуары болей за 10 твораў пад назвай «Аве Марыя». Але асабліва яна любіць працаваць над камернымі праграмамі. Перад тым, як спяваць рамансы на вершы Цвятаевай, абавязкова перагорне старонкі зборніка. Для рамансаў патрэбна пачуццё, часам адчуваеш, што слухачы — большасць ва ўзросце — чакаюць менавіта ўспаміну пра каханне. І каб не зала, не білеты, не суседзі, яны малі б устаць і заспяваць разам...

А бывае, што праграмы рыхтуюцца — і забываюцца, таму што няма попыту. Якое жорсткае слова для мастацтва! Як гэта «няма попыту» на Вярцінскага? Тым не менш — няма, праграму паказалі толькі два разы. Затое была асалода ад яе падрыхтоўкі. Мастацтва дапамагае нават тады, калі не знаходзіць падтрымкі ў часе і прасторы. Пра гэта Ніна Цішко імкнецца гаварыць сваёй публіцы.

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## У КРУПСКІМ РАЁНЕ — АДНАЎЛЕНЧЫЯ РАБОТЫ

**Мінскую вобласць стыхійныя бедствы без сваёй «увагі» не пакідаюць. У першы дзень чэрвеня — водная стыхія ў Валожыне, а 9 чэрвеня — ураган у Крупскім раёне.**

Нагадаем, што ў гэты дзень моцны вецер, смерч, лівень і град абрушыліся на вёску Ротань. Былі поўнасцю разбураны чатыры вытворчыя аб'екты, на аднаўленне якіх запатрабуецца каля 2,5 мільярда рублёў. Рамонт неабходны і большай частцы калгасных памяшканняў, у тым ліку і сельскаму магазіну.

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА ў штабе грамадзянскай абароны Крупскага раёна, удару стыхіі падверглася таксама 42 жылыя дамы. Асабліва многа бяды нарабіў град, велічыня якога дасягала курынага яйка. Цяпер мясцовыя ўлады дапамагаюць жыхарам перакрыць дах. Большая частка пашкоджаных дамоў была застрахавана, і кампанія «Белдзяржстрах» пачала ўжо выплату кампенсацый за ўрон, нанесены стыхіяй. Ураган часткова пашкодзіў, а сям-там і поўнасцю знішчыў пасевы на калгасных палях і на асабістых падвор'ях грамадзян. Так што разлічваць на багаты ўраджай не прыходзіцца.

Вядома, ураганы, якія іншы раз «наведваюць» Беларусь, па сваёй сіле і разбуральных здольнасцях не параўнаць з тымі, што абрушваюцца на Паўднёвую Амерыку або астравы Японіі. Але бед яны прыносяць таксама нямала.

**Аксана АСПІШЧАВА,**

## Лясам небяспека не пагражае

**Прайшоўшыя ў выхадныя дні праліўныя дажджы як мінімум на два тыдні адцягнулі для работнікаў лесу і насельніцтва праблему пажаранебяспекі ў лясах, паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Мінскім вытворчым лесагаспадарчым аб'яднанні.**

Па словах спецыялістаў, нават 3 міліметры выпаўшых ападкаў зніжаюць пажаранебяспечнасць на ступень, самай страшнай, з якіх, дарэчы, лічыцца пятая. Яна так і называецца: пяты клас надзвычайнай пажарнай бяспекі. Нагадаем: спякота на мінулым тыдні якраз набліжала лясы Міншчыны да гэтай ступені, аднак цяпер, як зазначылі спецыялісты, можна спаць спакойна: зялёнае покрыва, да таго ж добра змочанае, не так лёгка паддаецца ўзгаранню. Тым больш, па прагнозах сіноптыкаў, у бліжэйшыя дні тэмпература паветра знізіцца недзе на 4 градусы. Мяркуецца, што тэмпературны рэжым у бліжэйшы час установіцца ўдзень на адзнацы 17—20 градусаў цяпла. Так што, мужыкі, смела ў лес! На шашлыкі!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ЮБІЛЕІ*

## У кожнага беларуса — амаль гектар свайго» лесу

### *Гэтымі днямі лясныя службы Расіі і Беларусі адзначаюць свой юбілей*

***200 гадоў таму Указам імператара Паўла І быў заснаваны Лясны Дэпартамент, які палажыў пачатак фарміраванню новай спецыялізаванай галіны — дзяржаўнайляснай гаспадаркі.***

Лічыцца, што першыя лесаўпарадкавальныя работы былі праведзены на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў лясах Гродзенскай эканоміі і Белавежскай пушчы яшчэ да 1798 года. А з 1923 года ў рэспубліцы пачала ствараецца свая лесаўпарадкавальная служба.

Дзве сусветныя вайны, якія пракаціліся па тэрыторыі нашай краіны ў XX стагоддзі, нанеслі вялікі ўрон яе лясным масівам. Так, для аднаўлення народнай гаспадаркі пасля першай сусветнай і грамадзянскай войнаў было высечана 945,5 тыс. га лясоў, а закультывавана толькі 339,8 тыс. га, ці 35,9 працэнта плошчы лесасек. Пасля Вялікай Айчыннай вайны з 1944 па 1950 год было высечана 356,1 тыс. га, закультывавана — 207,2 тыс. га, ці 58,1 працэнта лесасек. І толькі пачынаючы з 1974 года плошча насаджаных лясных культур пачала перавышаць плошчу высечанага спелага лесу.

Цяпер лясы займаюць 36 працэнтаў тэрыторыі Беларусі, і на аднаго беларуса прыпадае 0,74 га лесу. Агульны ж запас драўніны складае ў рэспубліцы 1 млрд. 100 млн. кубаметраў лесу.

81 працэнт беларускіх лясоў складаюць зараз маладнякі і дрэвы сярэдняга ўзросту. Штогод лясамі засаджваецца ў краіне да 25 тыс. га, і кожнае чацвёртае дрэва пасаджана ў лесе чалавечымі рукамі.

На сённяшні дзень перад вялікай арміяй лесаводаў краіны, а гэта 34.877 чалавек, 91 з якіх мае ганаровае званне «Заслужаны лесавод Рэспублікі Беларусь», стаяць некалькі задач — ад захавання лясных рэсурсаў да ўзнаўлення лясоў і рацыянальнага іх выкарыстання. Менавіта ў мэтах паляпшэння агульнага стану лясоў, іх аднаўлення і ахоны 20 красавіка 1998 г. Саветам Міністраў была прынята пастанова, якая прадпісвае — абл- і райвыканкамам забяспечыць на працягу 1998—2000 гадоў канфіскацыю ва ўстаноўленым парадку зямель, пакрытых лесам, у калгасаў і іншых суб'ектаў гаспадарання і перадачу іх лесагаспадарчым прадпрыемствам Міністэрства лясной гаспадаркі. Такім чынам, робіцца першы крок да аднаўлення ў Беларусі Ляснога дэпартамента, які, згодна з задумай, павінен сканцэнтраваць усе справы па лясной гаспадарцы ў адным ведамстве, як гэта было яшчэ ў царскай Расіі.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*Падрабязнасці*

### Барысаўскі раён пératварыўся ў «Венецыю»

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Галоўным упраўленні ваенізаванай пажарнай службы, з-за моцных дажджоў, якія прайшлі ў нядзелю, пацярпеў Барысаўскі раён.**

Тут у выніку стыхіі, паводле аператыўных даных, адключаны 3 трансфарматарныя падстанцыі, абарвана больш за 40 ліній электраперадач, у райцэнтры затоплена 8 вуліц, павалена каля 50 дрэў.

Наступствы дажджоў хутка былі ліквідаваны. Урон пакуль не ўстаноўлены.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

### Бяда за бядой

**Лета толькі бярэ «разбег», а трагедыі на рэках, азёрах, запоўненых вадой кар'ерах не проста нагадваюць, а літаральна крычаць аб сабе. Колькасць ахвяр за апошнія тыдні набліжаецца на Гродзеншчыне да дваццаці чалавек.**

Сярод іх трэцякласніца, выпускніца школы, салдат тэрміновай службы 1979 года нараджэння, 26-гадовы рабочы, 40-гадовая даярка, 66-гадовы пенсіянер.... 23-гадовы гродзенец утапіўся насупраць Калажскай царквы. У 22 гадзіны 30 хвілін ён спрабаваў дастаць з Нёмана мяч.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

### Па ліўневаму раскладу

**Звычайна спазняюцца аўтобусы. Здараецца, што і цягнікі. А вось электрычкі, што ні кажы, — транспарт ці не самы надзейны. А вось нядзельная сітуацыя на станцыі Пухавічы крыху пахіснула такое перакананне.**

Магчыма, вінаваты няявілы для сёлетняга чэрвеня дождж. З неба, бы з таго вядра, ліло ў ваколіцах станцыі, на Пухаўшчыне, мо гадзіны са тры несупынна... І графік руху электрацягнікоў на Мінск быў парушаны ў другой палове дня. Бяда ў прыныцце не ў гэтым. Стыхіяй, якая паўплывала на адключэнне электрычнасці, надта не пакамандуеш. Уразіла другое — адсутнасць якой бы там ні было папярэдняй інфармацыі пра рух электрацягнікоў. Людзі, стоўпіўшыся, схаваўшыся ад дажджу ў памяшканні чыгуначнага вакзала станцыі Пухавічы, прыкладам, у чаканні электрычкі на 18 гадзін 59 хвілін, і ведаць не ведалі, што яна, як кажуць, адышла раней. Не трапілі ў вызначаны раскладам час і іншыя электрацягнікі. А калі, зразумела, цікаўныя пасажыры спрабавалі нешта высветліць, то ў адказ ад касіра чулі, што дадаведка — гэта не іх справа. Ды і машыніст, прыкладам, электрацягніка «Пухавічы—Мінск» не спяшаўся, мякка кажучы, раскрываць таямніцу адыходу цягніка. А што ж да дыспетчара станцыі, то ў лепшым выпадку голас яго можна было пачуць толькі ў тую хвіліну, калі электрычка ўжо ці то прыбывала, ці то ад'язджала.

Вось і разбярыся, хто для каго працуе. Касір — адно толькі, каб прадаць білет. Машыніст — толькі каб весці наперад электрычку. А хто ж працуе для пасажыраў?

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Кар'ер-забойца

***У Віцебску, у цэнтры горада, каля тэлезавода знаходзіцца невялікі кар'ер памерам прыкладна 50х70 м, але з надыходам гарачых дзён у кар'еры гінуць людзі, прычым у асноўным дзеці.***

Вадаём размешчаны побач з дамамі, і дзеці, якія засталіся без дагляду бацькоў, ратуюцца ад гарачыні менавіта там. Уся небяспека заключаецца ў тым, што дно гэтага вадаёма ўсеяна глыбокімі ямамі, глінянае і глеістае: засмоктвае лёгка, а выбрацца практычна немагчыма. Ёсць ахвяры кар'ера-забойцы ўжо і ў гэтым годзе: 30 красавіка затанула трыццацігадовая жанчына, 10 чэрвеня — дзевяцігадовае дзіця. У першым выпадку жанчына адпачывала з кампаніяй з чатырох чалавек, усе знаходзіліся ў нецвярозым стане, але паплаваць захацелася толькі двайм — ёй і яе сябру. Не даплыўшы сямі метраў да берага, жанчына пачала тануць, спробы яе спадарожніка аказаць дапамогу былі беспаспяховымі... Праз гадзіну цела жанчыны дасталі выратавальнікі.

Другая трагедыя адбылася ў чатыры гадзіны дня. Дзевяцігадовы Віця (вучань Багушэўскай школы-інтэрната, які прыехаў да сваёй маці на канікулы) адправіўся на кар'ер з сябрамі таго ж узросту — братам і сястрой. Адзін палез у ваду, сябры засталіся на беразе. Як потым расказаў сябар загінуўшага, мужчыны, якія былі на беразе, папярэджвалі, што купацца тут небяспечна, але Віця не паслухаўся і пачаў ныраць. Ён не крычаў, не зваў на дапамогу, адзін раз толькі высунулася галава над вадой, і больш Віцю не бачылі. Дзеці абышлі ўвесь бераг, але марна. Потым пайшлі да Віцавай маці і ўжо разам з ёй вярнуліся назад. Пазней маці паведаміла ў міліцыю, тыя ў сваю чаргу перадалі паведамленне аварыйна-выратавальнаму атраду, праўда, праз шэсць гадзін. Выратавальнікі знайшлі цела хутка. Труп дзіцяці выглядаў жахліва, аднак людзі, якія сабраліся вакол, доўга не разыходзіліся, а адпачываючыя нават палезлі ў ваду...

Віцебскі абласны савет Таварыства выратавання на водах неаднаразова пісаў ў райвыканкам аб тым, што гэты кар'ер — патэнцыяльнае месца гібелі людзей. Адзіны спосаб спыніць спіс ахвяр кар'ера-забойцы — засыпаць пяском гэтую злашчасную яму. Але, відаць, мясцовай адміністрацыі, для таго каб прыняць дзейсныя меры, чалавечых ахвяр яшчэ малавата.

**Аляксандра ВІШНЕЎСКАЯ.**

## Патануў ад бутэлькі?

**У ноч з пятніцы на суботу на Мінскім моры ў раёне так званага пятага пляжа побач з адным з невялікіх астравоў адбылася чарговая трагедыя на вадзе: загінуў юнак 1972 года нараджэння.**

Паводле сведчання работнікаў выратавальнай станцыі, якія апытвалі сведак здарэння, на востраве гуляла вялікая кампанія моладзі — каля 20 чалавек. Недзе ў 4.50 раніцы некалькі юнакоў на гумавай лодцы адплылі ад вострава. Нечакана адзін з іх ці то скокнуў у ваду, ці то ўпаў выпадкова. Нягледзячы на тое, што сведак здарэння было шмат і юнака нават спрабавалі выратаваць, ён патануў. Хаця, як заўважылі работнікі выратавальнай станцыі, да берага было каля 10 метраў. Ёсць сур'ёзныя падазрэнні, што хлопцы былі добра падпіўшы.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

| СОНЦА | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 4.36 | 21.43 | 17.07 |
| Віцебск – | 4.18 | 21.41 | 17.23 |
| Магілёў – | 4.26 | 21.32 | 17.06 |
| Гомель – | 4.32 | 21.21 | 16.49 |
| Гродна – | 4.53 | 21.57 | 17.04 |
| Брэст – | 5.03 | 21.48 | 16.45 |

*ІМЯНІНЫ*

**Пр. Паўла, Дзіянісія, Дзімітрыя, Паўлы**
**К. Аліны, Анэты, Бянона**

*СЁННЯ*

*МЕСЯЦ* **Апошняя квадра 17 чэрвеня.**

З 0.20 — 22-ія месяцавыя суткі.
Месяц — у сузор'і Рыбаў.

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Гродне і Брэсце — 18—20, Мінску — 19—21, Гомелі — 20—22, Магілёве — 21—23, Віцебску — 22—24 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература ўначы — 9—14, удзень — 19—24 градусы вышэй нуля.

## Будучыня айчыннага мастацтва паляцела ўгору. На паветраным шары, амаль пад самыя аблокі

### *А «вінаватыя» ва ўсім сёлетнія выпускнікі Рэспубліканскага каледжа мастацтваў*

Праўда, «віну» іх можна падзяліць з Яўгенам Будзінасам ды яго музеем матэрыяльнай культуры «Дудуткі», які спакваля становіцца «турыстычнай Меккай» краіны. І, мусіць, не столькі з-за пэўных геаграфічных ці гістарычных асаблівасцяў «дудуткаўскіх» ваколіц, колькі з-за пэўнага ўмення гаспадароў, працаўнікоў музея наладзіць турыстычны сэрвіс. Але ж пра тое, што здарылася на шматгектарнай плошчы музейнага комплексу ў мінулую суботу.

Вясёлым картэжам на вернутых з небыцця аўтамабілях-рэтра наляцелі ў «Дудуткі» са сталіцы выпускнікі Рэспубліканскага ліцэя мастацтваў. З мэтай канкрэтнай — правесці свой выпускны баль. Юнакі і дзяўчаты, якія ў самым хуткім часе стануць студэнтамі Беларускай акадэміі мастацтваў, універсітэта культуры і іншых ВНУ краіны, на гэты раз здрадзілі гарадской спякоце, не пашкадаваўшы сваіх шыкоўных бальных касцюмаў. Праўда, здаецца, ніякай дысгармоніі паміж дэкальтэванымі сукенкамі і квяцістай лугавой палянай не адчувалася. Наадварот — усё было да месца: і лодкі на Пціч, і вятрак, вяршыню якога авалодалі ўсе, і паветраны шар, на якім таксама лёталі будучыя прафесійныя мастакі і скульптары. А сваіх настаўнікаў, бацькоў, гаспадароў «Дудутак» юныя творцы парадавалі мілым, сімпатычным канцэртам, у якім паспрабавалі сумясціць розныя часы і эпохі: праз спевы, танцы, праз тэатр батлейкі. Дарэчы, і панадпцічанскі музей матэрыяльнай культуры заўсёды заклапочаны спалучэннем, узаемасувяззю часоў і культур. Таму традыцыйна і з шырокім размахам штогод у «Дудутках» праводзіцца фэст старасвецкай культуры. Сёлетні, які ўжо мае і такое вымярэнне, зразумелае і беларусам, і палякам, і рускім, — чацвёрты інтэрнацыянальны, пройдзе 27 чэрвеня.

Мінуць гады — і мо з часам сённяшнія выпускнікі — выдатнікі Рэспубліканскага каледжа мастацтваў Андрэй Бука, Дзяніс Чубукоў, Аня Кліменка і іх сябры ў сваіх працах адлюструюць вецер вольнасці і свежае паветра «Дудутак», узгадаюць паветраны шар, вятрак, чыстую, незамутнёную крыніцу колішніх памешчыкаў і асветнікаў Ельскіх.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**



Фота Галіны МАСКАЛЕВАЙ.

## ВЫТВОРЧЫ ТРАЎМАТЫЗМ: можа быць яшчэ горш?

Навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 80-годдзю інспекцыі працы, прыняла рашэнне звярнуцца да Нацыянальнага сходу з прапановай у самы бліжэйшы час прыняць законы «Аб абавязковым сацыяльным страхаванні ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці і прафесійных захворванняў», «Аб бяспецы ў прамысловасці», а таксама «Аб адказнасці наймальніка за парушэнні заканадаўства аб працы».

Як сведчыць статыстыка, з пачатку 90-х гадоў паказчыкі няшчасных здарэнняў на вытворчасці ў Беларусі сталі зніжацца. Разам з тым узровень вытворчага траўматызму са смяротным зыходам у рэспубліцы больш чым у 3 разы перавышае аналагічныя даныя па большасці эканамічна развітых краін. Штогод на вытворчасці атрымліваюць траўмы больш як 12 тысяч нашых суграмадзян, з якіх звыш 300 гіне, а каля 800 па сутнасці становяцца інвалідамі. Да таго ж за апошнія пяць гадоў у краіне ў 1,5 раза ўзрасла прафесійная захворваемасць. Не дадаюць аптымізму і прагнозы: ёсць рызыка, што колькасць няшчасных выпадкаў можа ўзрасці з-за састарэлага абсталявання. Так, ужо зараз у большасці галін эканомікі амартызацыйны знос тэхнікі дасягае 60 працэнтаў.

Таму, на думку ўдзельнікаў канферэнцыі, асаблівай увагі заслугоўвае айчыннае заканадаўства, якое сёння не забяспечвае ў поўнай меры стымулаў для кіраўнікоў прадпрыемстваў паляпшаць умовы працы. Між тым, нягледзячы на амаль чатырохгадовыя прамовы, Беларусь па-ранейшаму застаецца адзінай у СНД краінай, якая нават не мае ўласнага закона аб ахове працы.

**Сяргей ГРЫБ.**

# КІРМАШ

**ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК**

**№ 23 (141)**


## ПРАДАЕЦЦА

■ л/а «Опель-Аскона» 1985 г.в., цэнтральны замок, люк — у Смаргоні. *Тэл. (8-01592) 3-16-28.*

■ матацыкл «ІЖ Планета-5» з каляскай 1991 г. в. (700 у.а.) або мяняю на новы зруб. *Тэл. у Мінску 259-96-02.*

■ кватэра 4-пакаёвая ў в. Пяскоўцы Лідскага раёна. Цана 3500 у.а. *Тэл. у Лідскім раёне 7-62-18.*

■ дом з усімі выгодамі, гаражом, участак 30 сотак у Карэліцкім раёне. *Тэл. 94-82-37, Генадзь Яўгенавіч.*

■ дом у в. Манькавічы Пастаўскага р-на з вадзяным ацяпленнем, санвузел, гараж, сад, участак 25 сотак. *Тэл. (8-255) 2-65-33.*

■ «ВАЗ-21057» 1992 г.в. белы, салон — чорны велюр, фаркоп, магнітола — 3700 у.а. *Тэл. у Слуцку 5-46-24.*

■ трактар «МТЗ-80»; «ВАЗ-21013» 1982 г.в. у добрым стане, электрапіла «Парма», электрамлын — у Ст. Дарогах. *Тэл. (8-01792) 5-57-25.*

■ медагонка новая. *Тэл. у Мінску 271-18-01.*

■ мотаблок з прычапнымі, матацыкл «ІЖ-Планета-4» на з/ч. *Тэл. у Глыбоцкім раёне (8-256) 3-55-59.*

■ тэрмінова дом з г/пабудовамі ў в. Чановічы Нясвіжскага р-на. *Тэл. 3-11-31.*

■ «ВАЗ-21063» 1988 г. в., апарат даільны «АІД-1» у Нясвіжскім раёне. *Тэл. 4-61-62, пасля 21.*

■ тэлевізар «Ташыба» — 54 см, новы, гарантыя 1 год. *Тэл. у Паставах 2-51-91.*

■ «ПАЗ-627» 1974 г. в. *Звяртацца: 231100, в. Баранцы Ашмянскага раёна. Суравец М.З.*

■ гістарычная энцыклапедыя ў 16 тамах, сачыненні: Л. М. Талстой — 16 т., І. С. Тургенеў — 11 т., Бібліятэка прыгод і фантастыкі — 30 т., Вальтэр Скот — 8 т. *Тэл. (8-2353) 7-56-53 у Тураве.*

■ «Опель-Кадэт», растаможаны, 1982 г. в. — 1850 у.а. «Форд-Гранада» 1980 г. в., растаможаны, у добрым стане, цана па дамоўленасці (г. Клічаў). *Тэл. (8-236) 2-16-80.*

■ кватэра 3-пакаёвая ў г.п. Свіслач Гродзенскай вобл. *Тэл. (8-01513) 2-18-89.*

■ тэрмінова л/а «Аудзі-100» 1978 г. в., бензін, 5-цыліндровы, можна на з/ч (г. Слонім). Тэл. *(8-01562) 9-42-23.*

■ воск пчаліны, шкуркі труса—сырэц (вялікія). *Тэл. у Скідалі 99-61-05.*

■ «Опель-Кадэт» 1982 г. в. у выдатным стане, салатавы металік, дыскі літыя, люк, фаркоп — 2200 у.а. Тэл. *у Мінску 210-15-56.*

■ «ЗАЗ-966» 1976 г. в., шмат з/ч — 100 у.а. *Тэл. (8-01562) 9-13-87.*

■ збор твораў Г. Сянкевіча ў 9 тамах, «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча. *Тэл. у Мінску 247-65-76, з 20.00.*

■ «ГАЗ-66» у добрым стане (з тэнтам) або абмяняю на трактар. Тэл. *у Клецкім раёне 3-34-30, увечары.*

■ «ГАЗ-2410» 1990 г. в., А-76, у выдатным стане. Тэл. *у Смаргоні 9-31-37; у Мінску — 241-75-45.*

■ зруб 9х9 (Крупкі). *Тэл. (8-296) 5-58-78.*

■ тэрмінова «ВАЗ-2121», цана дагаворная. *Тэл. у Валожынскім раёне 3-36-03.*

■ дом у Карэліцкім раёне з усімі выгодамі, гараж, тэлефон, участак 30 сотак. *Тэл. 94-82-37, Генадзь.*

■ цэнтрыфугу для вымярэння тлустасці малака, танна. *Тэл. у Ваўкавыску 2-00-18.*

■ тэрмінова «Масквіч-2140» 1980 г. в., капрамонт у 1997 г. — 680 у.а. *Тэл. у Калінкавічах 5-73-53.*

■ кватэра 3-пакаёвая ў к. п. Нарач. *Тэл. у Мядзелі 5-81-11.*

■ дом 6х12, сад, агарод 35 сотак у в. Атрубак — 2000 у. а.; рогі аленя. *Тэл. 258-57-45.*

■ дом у в. Ляскі Калінкавіцкага раёна. *Тэл. у Калінкавічах 7-11-62.*

■ «ВАЗ-2105» 1987 г. в. у выдатным стане — 2200 у.а. Пральная машына «Рыга-7» — 2 500 000 руб. *Тэл. у г. Валожыне 5-80-04.*

■ кватэра 3-пакаёвая ў Крупках, ёсць тэлефон, гараж. Тэл. *(8-271) 5-53-29.*

■ тэрмінова і танна цагляны катэдж з усімі выгодамі ў Лепельскім раёне. *Тэл. 2-41-90.*

■ зруб 9х11 і інш. у г. Іўе. *Тэл. (8-017) 251-06-48.*

■ «УАЗ-469» 1984 г. в. з прычэпам або мяняю на легкавы аўтамабіль. *Тэл. у Валожыне (8-272) 5-58-74, пасля 19.00.*

■ Аўтамабіль «ФОРД-ЭСКОРТ», 1981 г. в. бензін, пяцідзверны. Цана дагаворная. г. Стоўбцы. *(8-01717) 5-43-43.*

## РОЗНАЕ

■ мяняю кватэру 3-пакаёвую ў Паставах на 2-пакаёвую ў Маладзечне або Лузе. *Тэл. у Паставах 2-51-97.*

■ прадаю падвеску ў зборы (б/к) да «Масквіча» або мяняю на электраінструмент (б/к). *Тэл. (8-217) 5-23-55.*

■ мяняю 1-пакаёвую кватэру ў Джанкоі (Крым) на гарады Гомель, Мінск, Віцебск, або прадам. *Тэл. (8-0232) 48-94-78, 72-63-70.*

■ рашэнне задач па матэматыцы любой цяжкасці. Воранава. *Тэл. 7-11-59.*

■ куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі. *Тэл. 253-24-41.*

■ мяняю 4 тамы В. Быкава і 4 тамы А. Адамовіча на рускай мове на беларускамоўныя. *Тэл. 244-00-63.*

■ куплю трактар «Т-25», навясныя агрэгаты. Тэл. у Глыбокім: *(8-02156) 2-48-84; 2-12-65.*

■ куплю «МТЗ-82» ці «Т-25» б/к. *Тэл. (8-017) 251-06-48.*

## *Віншаванні*

*Віншуем з 70-годдзем* ***Марыю Сямёнаўну ГУЛЬМАНТОВІЧ.*** *Жадаем здароўя, бадзёрасці і доўгага шчаслівага жыцця.*

**Муж, дзеці, унукі, сям'я Бекішаў,** *в . Каменка.*

*Сардэчна віншуем* ***Дзіяну Фёдараўну ФЕДАСЕНКА*** *з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, любові дзяцей, ласкі ўнукаў і праўнукаў.*

**Суседзі Галубы** *з в. Волма.*

*Віншуем дарагую матулю і бабулю* ***Нэлу Еўдакімаўну КУШНЯРЭВІЧ*** *з в. Вяляцічы Барысаўскага раёна з 60-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.*

**Дзеці, унукі,** *г. Барысаў.*

*Віншуем з днём нараджэння дарагіх* ***Сцяпана Сцяпанавіча ШЛЯГА*** *і* ***Віталя Аляксандравіча ПРАКОПЧЫКА*** *з г. Гродна. Жадаем здароўя, шчасця, дабрабыту, удачы ў жыцці.*

**Родныя,** *г. Калінкавічы.*

*Шчыра віншуем з днём нараджэння дарагую сяброўку* ***Марыну ВАКУЛЕНКА.*** *«Пусть на зло твоим врагам все сбываются мечты, пусть всегда к твоим ногам падают цветы».*

**Сябры з вул. Маладзёжнай,** *в. Красны Дар.*

*Шчыра віншуем паважаную* ***Алену Адамаўну ШЧЭРБУ*** *з юбілеем. Жадаем здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.*

**Калегі па працы,** *г. Ст. Дарогі.*

*Любага, дарагога мужа і татачку* ***Станіслава Станіслававіча МІНЬКО*** *з пас. Навагарадзейскі віншуем з 35-годдзем. Жадаем здароўя, радасці, дабрабыту і поспехаў.*

**Жонка, дачка.**

*ПЕРСОНА МЕДЫЦЫНЫ*

# Няхай спраўляе баль дыягностыка!

Роўна два гады таму Анатоль Мікалаевіч Міхайлаў — прафесар, член-карэспандэнт па рэнтгенарадыялогіі нацыянальнай акадэміі навук, загадчык кафедры прамянёвай дыягностыкі Беларускага дзяржаўнага інстытута ўдасканалення урачоў па рашэнню Амерыканскага біяграфічнага інстытута ўвайшоў у лік 500 сусветных лідэраў «як найбольш выдатны вучоны, чые прафесійныя дасягненні ў XX стагоддзі будуць служыць будучым пакаленням».



І вось зусім нядаўна Кембрыджскім біяграфічным цэнтрам яму прысуджана «Залатая зорка» — зноў жа за прызнанне асаблівых поспехаў.

Анатоль Мікалаевіч Міхайлаў апублікаваў 150 прац па медыцыне, у тым ліку пятнаццаць манаграфій, мае сем аўтарскіх пасведчанняў на вынаходніцтвы і 75 пасведчанняў — на рацыяналізатарскія прапановы.

— Хто не ведае, што спрадвечнае і запаветнае жаданне кожнага чалавека — не хварэць, а калі ўжо захварэў, дык хутчэй пазбавіцца ад фізічных пакут, —гаворыць Анатоль Мікалаевіч. — Вось тут медыцына і павінна сказаць сваё слова. Але зрабіць гэта бывае не так проста. Чаму? Каб лячэнне было эфектыўным, трэба ведаць, ад чаго лячыць хворага. І поспех тут вызначае якасць дыягностыкі, яна спраўляе баль.

— Дыягностыка сёння ,— зазначае А. Міхайлаў, — адыгрывае вядучую ролю ў ахове здароўя, а прамянёвая дыягностыка аб'ядноўвае рэнтгеналагічныя даследаванні, ультрагукавую дыягностыку, камп'ютэрную тамаграфію. З іх дапамогай распазнаюцца амаль усе хваробы ўнутраных органаў і траўматычныя пашкоджанні.

... Разам з тым ён з жалем зазначае пра становішча ў рэспубліцы з адпаведнай апаратурай, хоць апошнім часам у гэтым напрамку і робяцца пэўныя захады, якія павінны палепшыць сітуацыю. Напрыклад, аналіз тэхнічнага стану рэнтгенаўскага абсталявання паказвае, што амаль палова яго маральна састарэла, г. зн. адпрацавала свой эксплуатацыйны рэсурс, а многія апараты працуюць, калі можна так сказаць, «на чэсным слове»: з-за старой ізаляцыі знаходзяцца ў крытычным стане. Амаль паўтысячы апаратаў не маюць узмацняльнікаў рэнтгенаўскага адлюстравання, і, адпаведна, абследуемыя пацыенты і самі ўрачы атрымліваюць павышаныя дозавыя нагрузкі. Па словах Анатоля Мікалаевіча, сярэдняя індывідуальная дозавая нагрузка на аднаго жыхара нашай рэспублікі перавышае сярэдні сусветны ўзровень у 6-7 разоў, да трыццаці працэнтаў рэнтгенаўскіх кабінетаў не адпавядаюць санітарна-тэхнічным нормам, ды і гэтыя нормы даўно састарэлі. І не дзіўна, што за апошнія дзесяць гадоў урачоў-рэнтгенолагаў у лячэбна-прафілактычных установах паменела. Праўда, пры гэтым адбываецца пераразмеркаванне спецыялістаў у іншыя службы. Напрыклад, у сталіцы ўжо налічваецца больш за восемдзесят урачоў УЗІ — ультрагукавой дыягностыкі...

Анатоль Мікалаевіч перакананы: важнейшым прынцыпам пры арганізацыі медыцынскай дапамогі з'яўляюцца агульнапрызнаныя метады дыягностыкі, у тым ліку і прамянёвай. І гэтыя метады павінны быць даступныя для ўсіх, хто мае ў іх патрэбу. Кожны, хто захварэў, павінен быць упэўнены, што дыягнастычнае абследаванне будзе выканана ў бліжэйшай медыцынскай установе. А добра арганізаваная прамянёвая дыягностыка забяспечыць хуткі і дакладны дыягназ, што прывядзе да скарачэння тэрмінаў шпіталізацыі.

**Іван КІСЯЛЁЎ.**

***НА ЗДЫМКУ: Анатоль МІХАЙЛАЎ.***

***Выпускнікі 1963 года СШ № 1 г. Капыля.***

Запрашаем на сустрэчу 4 ліпеня ў 14 гадзін у памяшканні школы.

**Тэл. для даведак у Капылі 5-01-81.**



## АБ'ЁМ ВУП ПАВЯЛІЧЫЎСЯ НА 13 ПРАЦЭНТАЎ

**Паводле папярэдніх даных Міністэрства статыстkі і аналізу Беларусі, аб'ём выраблены у краіне ў студзені—маі 1998 года прамысловай прадукцыі склаў у фактычных цэнах 223.438 млрд. рублёў.**

У супастаўных цэнах гэта на 13,9 працэнта больш, чым за аналагічны леташні перыяд. Аб'ём валавога ўнутранага прадукту, выраблената за пяць месяцаў 1998 года, склаў 113 працэнтаў да ўзроўню студзеня—мая 1997-га.

Спажывецкія цэны выраслі за май гэтага года на 3,4 працэнта.

**Сяргей СНЕГІН, БелаПАН.**



## *АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ*

**Аб. 730.** Валерый, 30/180, пазнаёмлюся з сур'ёзнай жанчынай для стварэння сям'і. Жыллё ёсць, але згодзен на пераезд. Па характару ўраўнаважаны, без ш/з. Пажадана фота, падрабязнасці пры перапісцы.

**Аб. 731.** Мужчына, 33/176, пазнаёміцца з жанчынай без дзяцей для стварэння сям'і. Фота і адказ абяцаю. Пісаць: 220079, г. Мінск-70, а/с 183.

**Аб. 732.** Сімпатычная дзяўчына, 18/165/60, пазнаёміцца з хлопцам да 24 гадоў для сур'ёзных адносінаў. Жыву ў Гродзенскай вобласці. Падрабязнасці пры перапісцы.

**Аб. 733.** Пазнаёмлюся з добрым хлопцам 18—22 гадоў без ш/з. Аб сабе: 16/165, «Шалі», жыву ў Капыльскім раёне, з месцаў зняволення не пісаць.

**Аб. 734.** Інтэлігентны мужчына, 47/164/70, пазнаёміцца з жанчынай без жыллёвых праблем для стварэння сям'і. Жыву ў Мядзельскім раёне.

**Аб. 735.** Калі ты стаміўся ад адзіноты, марыш пра добрую гаспадыню, жаночую пяшчоту і ласку, не маеш шкодных звычак, табе не больш 62 гадоў, напішы мне. Аб сабе: удава, 55/156/55, працую, забяспечана ўсім (Брэсцкая вобласць).

***P. S. Для атрымання адраса абанента высылайце канверт са сваім адрасам.***

# ЗВЯЗДА

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца. Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

НА СВАЕ ВОЧЫ

# ЗВЫЧАЙНАЯ АМЕРЫКА

## *III. Асабістыя правы, узведзеныя ў абсалют*

**Калі ў зусім незнаёмай установе выпадковыя сустрэчныя на калідоры прыязна вам усміхаюцца, вітаюцца і нават пытаюць «Як справы?» — то не варта пакутліва ўспамінаць, дзе вы гэтых людзей раней бачылі. Тым больш не трэба падазрона і недаверліва прыглядацца, спрабуючы зразумець, чаго яны ад вас хочуць дабіцца.**

Такая форма амерыканскай ветлівасці звычайна вельмі бянтэжыць нашых суграмадзян. (І не толькі нашых — многіх іншых еўрапейцаў.) Хоць не скажаш, што яна абсалютна чужая, напрыклад, для беларускага вяскоўца. У невялікіх беларускіх вёсачках дагэтуль прынята вітацца з кожным прахожым — нават з абсалютна незнаёмым. Іншая рэч, што гэтыя адкрытасць і прыязнасць чамусьці не перасяліліся разам з новым пакаленнем вяскоўцаў у нашы дэнацыяналізаваныя гарады.

Амерыканцаў, якія прыязджаюць да нас, вельмі здзіўляе тое, што з імі не вітаюцца ў ліфце, у магазіне, у банку, суседзі па лесвічнай пляцоўцы... Можна толькі здагадвацца, якія першыя ўражанні складваюцца ў іх ад краіны, у якой на прыязную ўсмешку адказваюць недаверлівым позіркам і павернутай спінай.

Яшчэ адна ўмоўнасць, якая, як правіла, здзіўляе нашых суайчыннікаў у Амерыцы — дыстанцыя паміж людзьмі (у літаральным сэнсе гэтага слова). Калі вы ў чарзе (напрыклад, да касы ў магазіне ці банку) наблізіцеся да суседа бліжэй чым на паўметра — гэта можа выклікаць нездаволенасць, раздражненне і нават заўвагу. Вашы паводзіны хутчэй за ўсё будуць расцэнены як выклік, як непрыстойная спроба замаху на чужую асабістую прастору.

Прычым лічыцца неабходным захоўваць гэтую дыстанцыю не толькі ў чарзе, але і ў іншых грамадскіх месцах — напрыклад, у транспарце, на вуліцы, на прыпынку. Па гэтай прычыне амерыканскія чэргі (якія калі-нікалі сустракаюцца, хоць і не ў нашым разуменні гэтага паняцця) маюць спецыфічны для нас выгляд. Ніхто нікому не дыхае ў патыліцу, не зазірае праз плячо і не наступае на туфлі. Такую чаргу нашаму чалавеку нават заўважыць цяжка. Вопыт, што і казаць, варты пераймання, хоць прывіць яго на айчыннай глебе пакуль што абсалютна немагчыма. І не толькі з-за свядомасці і з-за савецкіх традыцый, у адпаведнасці з якімі чэргі нагадвалі бетонную сцяну. Паспрабуйце захаваць «асабістую прастору» ў нашым грамадскім транспарце, які менш за ўсё разлічаны на тое, каб пасажыры маглі думаць пра такія ўмоўнасці. Хоць вельмі можа здарыцца, што калі-небудзь «асабістая прастора» і ў нас стане каштоўнасцю: «пачуццё локця» ў савецкім разуменні (калі чужы локаць упіраецца вам у спіну ў чарзе ці ў салоне аўтобуса) задавальняе далёка не ўсіх.

Пачуццё ўласнай годнасці, асабістай незалежнасці і недатыкальнасці, якое ў Амерыцы абараняецца і сілай закона, і традыцыямі, і грамадскай свядомасцю, — часам набывае і супярэчлівыя формы, якія цяжка ацаніць адназначна. Аднойчы ў самалёце мы з прыяцелем, з якім разам падарожнічалі па Амерыцы, захацелі сесці побач — для гэтага трэба было памяняцца месцамі з кімсьці з суседзяў. Зрабіць гэта аказалася даволі цяжка: суседзі, якія дагэтуль ветліва ўсміхаліся і віталіся, просьбу праігнаравалі. Толькі адзін з чатырох пасажыраў, да якіх мы звярталіся з аднолькавай просьбай, пайшоў на такую «ахвяру», ды і то вельмі неахвотна. Потым ад адной жанчыны-эмігранткі я пачуў, як яна, будучы цяжарнай, у нью-йоркскім метро не магла дабіцца, каб ёй уступілі месца.

Увогуле, адступацца ад сваіх правоў у Амерыцы не прынята. Вельмі актуальнай праблемай стала барацьба жанчын за раўнапраўе з мужчынамі. Жаночая эмансіпацыя дасягнула небывалых вяршынь. Многія начальнікі-мужчыны панічна баяцца абвінавачання ў «сексуальным дамаганні». Прыметай такога дамагання, аказваецца, можа стаць адрасаваны жанчыне камплімент або спроба пацалаваць ёй руку.

Імкненне жанчын да эмансіпацыі выяўляецца, сярод іншага, у іх імкненні звяртаць мала ўвагі на вопратку і ўвогуле на свой знешні выгляд. Роўнасць з мужчынамі (і нават падабенства да іх) пры гэтым, сапраўды, дасягаецца, але адначасова знікае штосьці надзвычай важнае, чаго пакуль не страцілі нашы жанчыны. Напэўна, гэта «штосьці» — жаноцкасць.

Вядомы пісьменнік, былы рэдактар перабудовачнага «Огонька», які нядаўна пасля сямі гадоў, праведзеных у ЗША, вярнуўся ў Маскву, успамінаў, як у Амерыцы падчас адной з сустрэч яго распытвалі пра адносіны да дзвюх актуальных для Штатаў праблем — эмансіпацыі і сексуальных меншасцяў. Пісьменнік дазволіў сабе пажартаваць:

— Калі б у Савецкім Саюзе былі такія ж жанчыны, як тут, я, напэўна, мог бы стаць гомасексуалістам.

Жарт не зразумелі, пісьменніку давялося тлумачыць, што ён не збіраўся прыніжаць годнасць амерыканскіх жанчын.

Цяпер у ЗША зацікаўлена абмяркоўваюцца нядаўнія жудасныя злачынствы, калі дзеці станавіліся ахвярамі сваіх аднакласнікаў, якія ўзялі ў рукі агнястрэльную зброю, што належала іх бацькам. Закон, які гарантуе кожнаму амерыканцу права мець зброю, дзейнічае з мінулага стагоддзя, яшчэ з тых часоў, калі існавала вострая патрэба ў такім праве. Ці пагодзяцца амерыканцы адступіцца ад гэтага права сёння, калі агульнадаступная зброя ўсё часцей становіцца інструментам злачынства? Многія і многія разглядаюць такія прапановы як недапушчальныя, паколькі яны «замахваюцца на правы асобы». І не даводзіцца сумнявацца: простага і лёгкага вырашэння гэтай праблемы не будзе.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*Вашынгтон—Атланта—Дэ-Мойн—Солт-Лэйк-Сіці—Сент-Луіс—Нью-Йорк.*

**(Працяг будзе.)**

## Адміністрацыя ЗША ўсур'ёз узялася за пытанні мовазнаўства

Белы дом накіраваў ва ўсе ўрадавыя ўстановы строгае распараджэнне, каб усе зыходныя дакументы, перш за ўсё прызначаныя для публікацыі, былі напісаны простай і зразумелай мовай, кароткімі сказамі. Распараджэнне ўступае ў сілу з кастрычніка. Трэба ж даць бюракратам, якія прызвычаіліся паміж сабой мець зносіны на ім адным зразумелым жаргоне, час на тое, каб узгадаць, як размаўляюць паміж сабой простыя грамадзяне.

**Рэйтэр.**

# ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
# ЗАКЛЮЧЭННЕ
# КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункта 38 пастановы Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» са зьмяненнямі і дапаўненнямі, унесенымі пастановамі Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 16 снежня 1994 г. № 12 і ад 28 чэрвеня 1996 г. № 8**

Канстытуцыйны Суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — Старшыні Канстытуцыйнага Суда Васілевіча Р.А., намесніка Старшыні Суда Марыскіна А.У., суддзяў Бойка Т.С., Вараб'я Г.А., Кенік К.І., Падгрушы В.В., Саркісавай Э.А., Філіпчык Р.І., Цікавенкі А.Г., Шабайлава В.І., Шышко Г.Б.

з удзелам:

прадстаўніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які ўнёс прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўнага акта: Паўлава В.І. — першага намесніка Міністра працы Рэспублікі Беларусь,

прадстаўніка Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь, які прыняў нарматыўны акт:

Мінца І.М. — суддзі, сакратара Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь

разгледзеў у адкрытым судовым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі і законам Рэспублікі Беларусь пункта 38 пастановы Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» са змяненнямі і дапаўненнямі, унесенымі пастановамі Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 16 снежня 1994 г. № 12 і ад 28 чэрвеня 1996 г. № 8".

У судовым пасяджэнні прынялі ўдзел:

Ждановіч І.М. — намеснік Старшыні Вышэйшага Гаспадарчага Суда Рэспублікі Беларусь;

Іваноўскі А.У. — намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь;

Сяргеева В.Г. — намеснік Міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вядзенне па справе ўзбуджана 19 мая 1998 г. па прапанове Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на падставе артыкула 116 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, артыкулаў 5 і 6 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» і артыкула 43 Рэгламенту Канстытуцыйнага Суда.

Праверцы падлягаў пункт 38 пастановы Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» са змяненнямі і дапаўненнямі, унесенымі пастановамі Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 16 снежня 1994 г. № 12 і ад 28 чэрвеня 1996 г. №8 (Судовы веснік, 1994, № 3; 1995, № 1; 1996, №3).

Згодна з указаным пунктам пастановы «пры разглядзе спрэчак, якія ўзнікаюць у сувязі з прымяненнем мераў дысцыплінарнага спагнання да работнікаў, якія адмовіліся ад заключэння дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці за захаванасць матэрыяльных каштоўнасцяў, суды павінны зыходзіць з умоў працоўнага дагавора. Калі выкананне абавязкаў па абслугоўванню матэрыяльных каштоўнасцяў складае для работніка яго асноўную працоўную функцыю, што агаворана пры прыёме на работу, і ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам з ім павінен быць заключаны дагавор аб поўнай матэрыяльнай адказнасці, адмову ад заключэння такога дагавора без уважлівых прычын неабходна разглядаць як невыкананне працоўных абавязкаў з усімі выцякаючымі з гэтага вынікамі. У выпадку адмовы работніка ад заключэння дагавора па ўважлівых прычынах, у тым ліку, калі раней выконваемая работа не патрабавала заключэння дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці і адсутнічала магчымасць перавесці работніка з яго згоды на іншую работу, працоўны дагавор скасоўваецца ў прымяненні да пункта 1 артыкула 33 КЗаП».

У сваёй прапанове аб праверцы канстытуцыйнасці пункта 38 пастановы Пленума Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь указаў, што заключэнне дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці — істотная ўмова працы. Калі заключэнне дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці не было абумоўлена пры прыёме на работу, то работнік у адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 25 КЗаП аб заключэнні такога дагавора павінен быць папярэджаны не пазней чым за адзін месяц. Калі ранейшыя істотныя ўмовы працы не могуць быць захаваны, а работнік не згодны на працяг работы ў новых умовах, то працоўны дагавор спыняецца па пункту 6 артыкула 29 КЗаП, а не па пункту 1 артыкула 33 КЗаП, як растлумачана ў пункце 38 пастановы Пленума.

Заслухаўшы суддзю — дакладчыка Шышко Г.Б., прадстаўнікоў бакоў, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі, Кодэкса законаў аб працы і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны Суд устанавіў наступнае.

На падставе часткі чацвёртай артыкула 116 Канстытуцыі Канстытуцыйны Суд па прапанове Прэзідэнта дае заключэнні аб адпаведнасці актаў Вярхоўнага Суда Канстытуцыі, міжнародна-прававым актам, ратыфікаваным Рэспублікай Беларусь, законам, дэкрэтам і ўказам.

У адпаведнасці з артыкулам 7 Канстытуцыі дзяржава, усе яе органы і службовыя асобы дзейнічаюць у межах Канстытуцыі і прынятых у адпаведнасці з ёй актаў заканадаўства. Прававыя акты або іх асобныя палажэнні, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку супярэчнымі палажэнням Канстытуцыі, не маюць юрыдычнай сілы.

Згодна з артыкулам 137 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь вышэйшай юрыдычнай сілай валодае Канстытуцыя. Законы, дэкрэты, указы і іншыя акты дзяржаўных органаў выдаюцца на аснове і ў адпаведнасці з Канстытуцыяй.

У адпаведнасці з артыкулам $121^1$ КЗаП пісьмовыя дагаворы аб поўнай матэрыяльнай адказнасці могуць быць заключаны наймальнікам з работнікамі (якія дасягнулі 18-гадовага ўзросту), што займаюць пасады або выконваюць работы, непасрэдна звязаныя з захаваннем, апрацоўкай, продажам (водпускам), перавозкай або прымяненнем у працэсе вытворчасці перададзеных ім каштоўнасцяў.

Пленум Вярхоўнага Суда ў пункце 38 пастановы растлумачыў, што пры разглядзе спрэчак, якія ўзнікаюць у сувязі з прымяненнем мераў дысцыплінарнага спагнання да работнікаў, што адмовіліся ад заключэння дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці за захаванасць матэрыяльных каштоўнасцяў, суды павінны зыходзіць з умоў працоўнага дагавора. Калі выкананне абавязкаў па абслугоўванню матэрыяльных каштоўнасцяў складае для работніка яго асноўную працоўную функцыю, што агаворана пры прыёме на работу, і ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам з ім павінен быць заключаны дагавор аб поўнай матэрыяльнай адказнасці, адмову ад заключэння такога дагавора без уважлівых прычын неабходна разглядаць як невыкананне працоўных абавязкаў з ўсімі выцякаючымі з гэтага вынікамі.

У выпадку адмовы работніка ад заключэння дагавора па ўважлівых прычынах, у тым ліку, калі раней выконваемая работа не патрабавала заключэння дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці і адсутнічала магчымасць перавесці работніка з яго згоды на іншую работу, працоўны дагавор скасоўваецца ў прымяненні да пункта 1 артыкула 33 КЗаП.

Канстытуцыйны Суд лічыць, што растлумачэнне Пленума Вярхоўнага Суда, дадзенае ў абзацы першым пункта 38 пастановы, адпавядае нормам Кодэкса законаў аб працы, а растлумачэнне, дадзенае ў абзацы другім указанага пункта, супярэчыць нормам Кодэкса законаў аб працы.

Згодна з часткамі трэцяй і чацвёртай артыкула 25 КЗаП у сувязі з абгрунтаванымі вытворчымі, арганізацыйнымі або эканамічнымі прычынамі дапускаецца змяненне істотных умоў працы пры працягу работы па той жа спецыяльнасці, кваліфікацыі або пасадзе. Аб змяненні істотных умоў працы — сістэм і велічынь аплаты працы, ільгот, рэжыму работы, устанаўлення або адмены няпоўнага рабочага часу, сумяшчэння прафесій, змянення разрадаў і назвы пасад і іншых — работніку павінна быць паведамлена не пазней чым за адзін месяц. Калі ранейшыя істотныя ўмовы працы не могуць быць захаваны, а работнік не згодны на працяг работы ў новых умовах, то працоўны дагавор спыняецца па пункту 6 артыкула 29 КЗаП.

Прааналізаваўшы нормы працоўнага заканадаўства, Канстытуцыйны Суд адзначае, што змяненне памераў матэрыяльнай адказнасці работніка ў сувязі з заключэннем з ім пісьмовага дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці з'яўляецца змяненнем істотных умоў працы, якія могуць быць ажыццёўлены без згоды работніка па абгрунтаваных вытворчых, арганізацыйных або эканамічных прычынах. Калі пры прыёме на работу заключэнне такога дагавора не было абумоўлена, а пры працягу работы такая неабходнасць у наймальніка ўзнікла, то аб гэтым трэба паведаміць работніку не пазней чым за адзін месяц. Спыненне працоўнага дагавора ў гэтым выпадку дапускаецца па пункту 6 артыкула 29 КЗаП, калі нельга захаваць ранейшыя ўмовы працы, а работнік не згодны на працяг работы ў новых умовах.

Абгрунтоўваючы сваю пазіцыю па пастаўленаму пытанню, Вярхоўны Суд у пісьмовым адказе ад 1 чэрвеня 1998 г. указаў, што «судовая практыка і вучоныя зыходзілі з таго, што для работнікаў, з якімі акрамя заключэння працоўнага дагавора неабходна заключэнне і дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці, абавязак па абслугоўванню матэрыяльных каштоўнасцяў з'яўляецца не проста істотнай умовай працы, а выкананнем асноўнай працоўнай функцыі». А таму, па меркаванню Вярхоўнага Суда, пры адмове работніка ад заключэння дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці па ўважлівых прычынах працоўны дагавор з ім скасоўваецца ў прымяненні да пункта 1 артыкула 33 КЗаП.

Канстытуцыйны Суд лічыць, што гэты довад не заснаваны на нормах Кодэкса законаў аб працы.

Працоўнае заканадаўства ў мэтах аховы права грамадзян на працу ўстанаўлівае пералік падстаў, якія даюць права наймальніку скасоўваць працоўны дагавор па яго ініцыятыве, а таксама ўмовы іх прымянення.

Вярхоўны Суд у пункце 38 пастановы Пленума недакладна растлумачыў нормы працоўнага заканадаўства і фактычна вызначыў правапрымяняльную практыку, якая не заснавана на законе.

Пленум Вярхоўнага Суда пастановай ад 8 чэрвеня 1998 г. № 5 «Аб выкананні судамі пастановы № 5 Пленума Вярхоўнага Суда ад 17 чэрвеня 1994 г. (са змяненнямі ад 28 чэрвеня 1996 г.) «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» пункт 38 з пастановы Пленума Вярхоўнага Суда ад 17 чэрвеня 1994 г. выключыў.

Згодна з часткай чацвёртай артыкула 11 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь» Канстытуцыйны Суд можа вынесці рашэнне і ў адносінах да актаў, заснаваных на праверaным акце або ўзнаўляючых яго асобныя палажэнні, калі яны і не ўпаміналіся ў прапанове аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўнага акта.

Канстытуцыйны Суд адзначае, што выключэнне пункта 38 у цэлым з пастановы Пленума можа прывесці да неадназначнага прымянення на практыцы нормаў працоўнага заканадаўства пры вырашэнні пытання аб звальненні работніка ў выпадку яго адмовы ад заключэння пісьмовага дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці без уважлівых прычын. Канстытуцыйны Суд лічыць, што раней існаваўшая практыка ў гэтай частцы адпавядае закону і можа быць захавана.

Пастанова Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь уступіла ў законную сілу пасля яе прыняцця. Выключэнне пункта 38 з пастановы Пленума Вярхоўнага Суда ад 17 чэрвеня 1994 г. закранае правы і законныя інтарэсы грамадзян, і таму ў дадзеным выпадку ўказаная норма да яе прымянення на практыцы павінна быць у адпаведнасці з артыкулам 7 Канстытуцыі апублікавана або даведзена да ўсеагульнага ведама іншым прадугледжаным законам спосабам.

На падставе выкладзенага, кіруючыся артыкулам 116 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 9, 34, 38, 40 і 43 Закона «Аб Канстытуцыйным Судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны Суд

**ВЫРАШЫЎ:**

1. Прызнаць не адпавядаючым Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і Кодэксу законаў аб працы пункт 38 пастановы Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» у частцы растлумачэння аб праве наймальніка на скасаванне працоўнага дагавора з работнікам па пункту 1 артыкула 33 КЗаП у выпадку адмовы работніка ад заключэння дагавора аб поўнай матэрыяльнай адказнасці па ўважлівых прычынах, у тым ліку, калі раней выконваемая работа не патрабавала заключэння такога дагавора і адсутнічала магчымасць перавесці работніка з яго згоды на іншую работу.

У сувязі з выключэннем пункта 38 з пастановы Пленума Вярхоўнага Суда ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 прызнаць пункт 4 «ж» пастановы Пленума Вярхоўнага Суда ад 8 чэрвеня 1998 г. «Аб выкананні судамі пастановы № 5 Пленума Вярхоўнага Суда ад 17 чэрвеня 1994 г. (са змяненнямі ад 28 чэрвеня 1996 г.) «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» не маючым юрыдычнай сілы да яго апублікавання або давядзення да ўсеагульнага ведама іншым прадугледжаным законам спосабам.

2. Апублікаваць гэта Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін з дня прыняцця ў «Народнай газеце», «Звяздзе» і ў тых выданнях, дзе быў апублікаваны правяраемы нарматыўны акт, а таксама ў «Ведамасцях Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

3. Гэта Заключэнне ўступае ў сілу з дня абвяшчэння, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы —**
**Старшыня Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь**
**Р.А.ВАСІЛЕВІЧ**

9 чэрвеня 1998 г., г.Мінск
№ 3—65/98

